№ 40 (925) 28 кастрычніка 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднoўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Алексіевіч і Лукашэнка: абмен уколамі



Старонка 3

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. Старонка 2.

# Супраць каго збіраюцца ваяваць гэтыя «воіны Хрыста»?

Як асобныя афіцэры і святары рыхтуюць салдатаў «рускага свету» на Гродзеншчыне.



Інструктары «Казацкага спасу» злева направа: Пятро Зубацкі, Пятро Шапко, Сяргей Зубацкі. Праваруч — лейтэнант міліцыі Дзяніс Мішкель. За спінаю Сяргея Зубацкага — маёр міліцыі Павал Найда.

Пад патранажам праваслаўнай царквы ў Беларусі дзейнічаюць дзіўныя «вайскова-патрыятычныя» клубы для моладзі.

Вось, з аўтаматамі, Сяргей і Пятро Зубацкія — магчыма, браты.

Абодва яны не хаваюць сваіх поглядаў — іх старонкі Укантакце заваленыя імперскімі і расійскімі сцягамі, тэкстамі ў падтрымку баевікоў Данбаса. І картамі, дзе Беларусь пазначаная часткаю Расіі.

Яны падпісаныя на суполку «Белоруссия Северо-Западный край России», якая ўжо сваёй назваю цягне на крымінальны артыкул за заклікі да ліквідацыі Беларусі як дзяржавы.

Кантэнт гэтай суполкі складаюць беларусаненавісніцкія тэксты.

«Пазняк, Шушкевіч і Лукашэнка для мяне ў адным шэрагу — усе яны незалежнікі недаробленыя», — піша адзін з сяброў гэтай суполкі.

Іншы разважае пра беларускую мову: «Як часта вы карыстаецеся гэтым га.ном»?

Працяг на старонцы 6.

**Важна ведаць**

## Кілбасы, сасіскі і вяндліна выклікаюць рак — афіцыйна пацверджана

Спецыялісты Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ) і Міжнароднага агенцтва па вывучэнні раку прыйшлі да высновы: спажыванне кілбас, сасісак або вяндліны павышае рызыку ўзнікнення раку кішэчніка.

Само мяса шкоды не нясе. Яно карыснае —багатае вітамінам $B_{12}$, цынкам і жалезам. Канцэрагенны эфект даюць дабаўкі ў кілбасы і балыкі. Хоць тыя дабаўкі не такія шкодныя, як тытунь, але ўсё ж лепш есці мяса варанае і печанае дома, а не мясакамбінатаўскія кілбасы.



## Памочнік прэзідэнта: Пара адмовіцца ад ручнога кіравання эканомікай

Кірыл Руды заклікае перайсці да эфектыўных мадэляў.



Структурныя рэформы прадугледжваюць змену стратэгіі, але гэта немагчыма ва ўмовах ручнога кіравання эканомікай. Такую думку выказаў памочнік прэзідэнта па эканамічных пытаннях Кірыл Руды, выступаючы на міжнароднай канферэнцыі ў Мінску.

«Як адысці ад ручнога кіравання эканомікай? Першае — дэцэнтралізацыя і дэлегаванне паўнамоцтваў. Другое — раздзяленне фінансаў дзяржавы і фінансаў дзяржпрадпрыемстваў», — мяркуе ён.

На яго думку, неабходна правесці мяжу для ўмяшання дзяржавы ў фінансы дзяржпрадпрыемстваў. «Нацыянальная бяспека, сацыяльная сфера і натуральныя манаполіі — тры кірункі, якія можна аднесці да фінансаў дзяржавы. Усё, што застаецца за межамі гэтых кірункаў, можна адправіць у рэжым вольнага плавання», — мяркуе Руды.

Апрача таго, адыход ад ручной сістэмы кіравання эканомікай прадугледжвае пераход на дзяржаўнае кіраванне, арыентаванае на вынік. «Такая сістэма прывядзе да таго, што зарплата і далейшая кар'ера кожнага дзяржслужачага будзе наўпрост залежаць ад выканання паказчыкаў эфектыўнасці. Гэта сістэма працуе ў большасці краін свету», — канстатаваў Руды.

Цыт. БелаПАН

## «Я не беларус сама, але мне гідка слухаць»

Свята паэзіі на радзіме Анатоля Сыса падпсавала адна мясцовая жыхарка. Старонка 2.

## Жнівень дагарае

Апавяданне Алеся Кіркевіча. Старонка 15.

## Як прымалі «Пагоню»

І чаму Мінск не стаў Менскам. Пра XII сесію Вярхоўнага Савета БССР піша гісторык Аляксандр Кур'яновіч. Старонка 14.

## «Самая прыгожая біятланістка Расіі» цяпер будзе выступаць за зборную Беларусі



22-гадовая Хрысціна Ільчанка пераедзе ў Мінск з гарадка Лабытнангі Ямала-Нянецкай акругі. Старонка 9.

# Памёр збіты хуліганам гей Пішчэўскі

Летась мінчук Міхаіл Пішчэўскі трапіў у бальніцу ў стане комы пасля ўдару, нанесенага яму былым настаўнікам фізкультуры Дзмітрыем Лукашэвічам. Суд прызнаў Лукашэвіча вінаватым у нанясенні траўмы і прысудзіў да 2,8 гадоў зняволення. Але ён ужо выйшаў з калоніі па амністыі.

Пішчэўскі не быў адкрытым геем. Ён працаваў будаўніком.

Для сястры ён быў братам і хросным бацькам двaіх дзяцей. Для мамы — любячым сынам. Тэма яго асабістага жыцця была адкрыта толькі для блізкіх сяброў. Сваякі аб сэксуальнай арыентацыі Мішы не ведалі.

Як высветліла следства, канфлікт адбыўся каля мінскай кавярні *Underworld*, дзе 25 мая 2014 года збіраліся асобы нетрадыцыйнай арыентацыі.

Дзяўчына, якая выйшла з клуба, паскардзілася хлопцам, якія стаялі побач, што яна нікога не зацікавіла, бо на вечарыне прысутнічаюць адны геі.

Хлопцы былі выпіўшы і, пачуўшы пра гэта, разгарачыліся. Яны дачакалі, калі з клуба сталі выходзіць першыя наведвальнікі, і пачалі крычаць:

— Вось підарасы ідуць!

Пішчэўскі выйшаў з двума сябрамі. Пачуўшы абразу, ён адказаў:

— Хто тут підарасы?

Тады Лукашэвіч ударыў яго кулаком.

Пішчэўскі ўпаў і стукнуўся галавой аб бетон. На гора, у мозгу ад гэтага ўтварыліся гематомы. У ходзе аперацый яму давялося выразаць каля 20% галаўнога мозгу. Хлопец праляжаў у коме каля месяца ў 5-й клінічнай бальніцы. Потым быў прыкуты да ложка дома. Вярнуцца да жыцця яму так і не ўдалося.

Суд прызнаў Лукашэвіча вінаватым, але вынес яму адносна мяккае пакаранне. Бацькі Пішчэўскага патрабавалі больш жорсткай кары.

«Я хоць да геяў стаўлюся не вельмі, але гэта не прычына калечыць, а тым больш забіваць маладога пацана», — такі водгук даслаў адзін з нашых чытачоў.

«Чувак быў проста геем, а вось сапраўдным підарасам аказаўся яго забойца», — напісаў наш чытач Бівіс.

«З жахам назіраю, як шмат у беларускім грамадстве агрэсіі, — дадае чытачка Валянціна Мікалаеўна. — Забойца — настаўнік фізкультуры. А ад чаго забойца? Бо п'яны быў», — адзначае яна.

**Сяргей Гезгала**


Пішчэўскі працаваў будаўніком. Яго забойца (зверху) — настаўнік фізкультуры. Ахвяры выдалілі 20% мозгу, і ён год праляжаў у бездапаможным стане.

# «Я не беларус сама, але мне гідка чуць»

**Свята паэзіі на радзіме Анатоля Сыса** падпсавала адна мясцовая жыхарка.



Культурны дэсант з Мінска быў прадстаўнічы: Барыс Пятровіч, Алесь Наварыч, Андрэй Федарэнка, Алесь Пашкевіч, Ціхан Чарнякевіч, Сяржук Сыс, Віталь Рыжкоў, Міхась Скобла, Усевалад Сцебурака.

За музычнае суправаджэнне адказвалі Аляксандр Памідораў, Яўген Барышнікаў, Андрусь Мельнікаў.

Прыехалі ў Гарошкаў і гомельскія: Анатоль Бароўскі, Генадзь Лапацін, Іван Штэйнер, Анжэла Мельнікава.

Завіталі на прыдняпроўскія кручы Ларыса Раманава з Веткі і Вадзім Болбас са Светлагорска.

Першы раз за ўсе гады свята паэзіі на радзіме «паэта-растрыгі, паэта-прарока» прайшло пад дахам — у памяшканні Дома культуры вёскі Заспа.

Раней літаратары мерзлі і моклі ў двары ля хаты Цішкі (вясковая мянушка Сысоў). Надвор'е рэдка спрыяла — то снег, то дождж, то вецер, які вырываў словы з песень, шпурляў у неба.

Літаратары «будавалі хату Сыса» з цаглінак яскравых успамінаў пра яго.

Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў **Барыс Пятровіч** узгадваў пра знаёмства з паэтам у 1984 годзе, калі той толькі скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт і быў апантаны беларушчынай, а потым кінуўся ў вір сталічнага жыцця, дзе пачалося Адраджэнне, паўставалі «Талака», «Тутэйшыя», прайшлі першыя Дзяды.

Барыс Пятровіч звярнуўся да землякоў Сыса, просячы іх успрымаць Анатоля ў першую чаргу як творцу, як вялікага паэта. Рэчыцкая зямля такіх геніяў яшчэ не нараджала. Ён нагадаў, што ў многіх вялікіх паэтаў лёс быў няпросты. «Вы бачыце нас — мы звычайныя, нармальныя людзі, але ж нешта нас кліча кожны год, нешта нас вядзе сюды, у Гарошкаў, незалежна ад надвор'я, бо быў тут і дождж, і снег, і тым не менш мы прыязджалі і праводзілі гэтыя паэтычныя святы ў двары Сыса, значыць, нечым ён важны для нас, значыць, нам хацелася нечым выказаць яму павагу і сваю любоў да яго як асобы і творцы», — патлумачыў Барыс Пятровіч.

Пісьменнік **Міхась Скобла** адзначыў, што аблічча зямлі, зямны ландшафт мяняецца вельмі хутка.

«Думаю, што, калі і праз тысячы гадоў сюды збяруцца тыя, хто шануе талент Сыса, — Анатоль іх сустрэне, як сустракаў сёння нас. Каменны, лагодны, як на помніку ў Гарошкаве. Генік Лойка добра зрабіў помнік, выбраўшы вось такі трывалы, у параўнанні з чалавечым жыццём, вечны матэрыял. Праз тысячу гадоў, можа, тут самум будзе прамятаць пяскі з бархана на бархан паміж Заспай і Гарошкавам ці ўзнікне яшчэ адно Герадотава мора, якое было на Палессі. Але і тады знойдуцца людзі, нашыя з вамі нашчадкі, якія адграбуць гэты пясочак, пажнуць ці пакосяць чараты, і Анатоль Сыс будзе сустракаць іх», — падзяліўся паэт.

Прафесар **Іван Штэйнер**, загадчык кафедры беларускай літаратуры Гомельскага ўніверсітэта імя Скарыны, упэўнены, што міфалагізацыя жыццёвага шляху Сыса павінна працягвацца, бо выключная асоба заўсёды абрастае міфамі. Хапае згадак пра Анатоля і ў сценах універсітэта. На пятым курсе, перад абаронай дыплома, а 23.00 ён неяк уваліўся ў кватэру загадчыка кафедрай, які быў рэцэнзентам яго працы, і прапанаваў зараз жа пачытаць яе. «А, у вас ёсць каляровы тэлевізар? Тады мы з сябрам паглядзім футбол у вас, а вы пачытайце!» — звярнуўся да выкладчыка студэнт. І выкладчык не адмовіў, надзіва.

Па Штэйнеру, у жыцці паэта ёсць лінія непасрэдна жыцця і лінія творчасці. Яны могуць не супадаць — нават адна адну перакрэсліваць, абыходзіць, адхіляць. Але потым пачынаюць збліжацца.

Празаік **Андрэй Федарэнка** расказаў, як у 1987 годзе ён пачаў пісаць раман «Рэвізія». І быў так уражаны «фігурай Анатоля, наколькі ён аказваў на чалавека ўплыў, гіпнатызаваў, як чалавек трапляў пад яго магнетызм», што вывеў адным з галоўных герояў у сваім рамане.

**Працяг на старонцы 13.**

## Апытанні на nn.by

**Для Вас 2015 год быў…**

| | | |
|---|---|---|
| удалы | 118 | 12% |
| няўдалы | 185 | 19% |
| усякі | 284 | 30% |
| ніякі | 161 | 17% |
| галоўнае яшчэ наперадзе | 212 | 22% |

Прагаласавала 960 карыстальнікаў

## Рэкамендуем на nn.by

### «Нялёгкая гэта работа — рускі свет даставаць з балота»

Паэма ў выкананні Міхаіла Яфрэмава

## Самае чытанае на nn.by за 21—27 кастрычніка

1 Лукашэнка пра Алексіевіч: Не паспела атрымаць Нобелеўскую прэмію, а ўжо выліла бруд на краіну

2 «Я не беларус сама, але мне гідка слухаць»: свята паэзіі на радзіме Анатоля Сыса падпсавала мясцовая жыхарка

3 «Самая прыгожая біятланістка Расіі» цяпер будзе выступаць за зборную Беларусі

4 Дачка Пуціна дала сваё першае інтэрв'ю

5 Канстанцін Меладзэ і Вера Брэжнева пабраліся шлюбам у Італіі

6 Пра першыя незваротныя страты войск РФ у Сірыі паведамў чыноўнік з атачэння Асада

7 Дачка беларуса-мільярдэра згуляла вяселле на ўласным востраве ў Грэцыі

8 «Як пашкадавалі тыя, хто спрадаў бацькоўскую хату»

9 Хто гэта на гербе «Пагоня»? «Гэта Лукашэнка» і іншыя цудоўныя адказы

10 «Людзі ў шоку — адной жанчыне налічылі 19 мільёнаў штрафу, другой — 32 мільёны»

Не ўсё ў жыцці апошні раз!

**Афармленне падпіскі цяпер даступнае:**
- праз сістэму «Інтэрнэт-падпіска» на сайце **www.belpost.by**;
- праз плацежна-даведкавыя тэрміналы;
- у аддзяленнях паштовай сувязі;
- дома, запрасіўшы паштальёна.

Выпісаць «Нашу Ніву» можна ў кожным паштовым аддзяленні. Падпісацца можна з любога месяца.

Індывідуальная падпіска на 2015 (індэкс у каталозе — **63125**) — **40 000** руб./месяц

Для прадпрыемстваў на 2015 (індэкс — **631252**) — **20 000** руб./месяц

**Атрымаць газету магчыма:**
- па ўказаным адрасе (у паштовую скрыню);
- у абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання» (у пунктах паштовай сувязі);
- з рук у рукі (з дастаўкай да кватэры).

Афармляючы падпіску на абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання», можна скарыстацца зніжкай за дастаўку газеты.

# Алексіевіч і Лукашэнка: абмен уколамі

**На творчым вечары расійскага кампазітара-папсавіка Віктара Дробыша Аляксандр Лукашэнка прайшоўся па Святлане Алексіевіч.**

Ён паставіў у прыклад нобелеўскай лаўрэатцы Віктара Дробыша. Лукашэнка падкрэсліў, што шануе кампазітара за яго творчасць, але «больш за ўсё за тое, што вы ніколі, нават быўшы далёка ад нашай Радзімы, калі пра нас не вельмі добра казалі, не саромеліся называць сябе беларусам, у адрозненне ад асобных нашых «творцаў».

«Скажу зноў жа пра нашых асобных «творцаў», творчых асобаў, нават лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі, якія не паспелі яшчэ яе атрымаць, выехалі за межы краіны і пасталіся цэбар бруду выліць на сваю краіну. Гэта няправільна, гэта не апазіцыйнасць. Гэта абсалютна няправільна, таму што Радзіму, сваю зямлю, як і сваіх бацькоў, сваю маці, не выбіраюць. Яна такая, якая яна ёсць. Калі ты дрэнна кажаш пра Радзіму, саромеешся яе, значыць, ты перш за ўсё дрэнны сын», — працягнуў Аляксандр Лукашэнка.

Адмоўчвацца Святлана Алексіевіч не стала.

«Калі Лукашэнка павіншаваў мяне, хай не першы, я была радая, бо зразумела: усё-такі ён палітык. І раптам вось гэты каментар. Я думаю, тады ён павіншаваў, бо гэта было перад выбарамі», — заначыла пісьменніца ў інтэрв'ю радыёстанцыі «Говорит Москва».

Паводле яе слоў, яна ніколі не крытыкавала беларускі народ, а толькі палітычныя рашэнні Лукашэнкі.

«Я спадзяюся, што мы жывём не пры феадалізме. І я спадзяюся, што Лукашэнка не думае, як французскі манарх: дзяржава — гэта я, — дадала пісьменніца. — Калі крытыкуеш яго, значыць, крытыкуеш народ. Гэта зусім не так. Але людзі пра іншае: людзі чакаюць пераменаў, яны хацелі б не вось гэтую дробную кухонную сварку, у якую ператвараюцца адносіны прэзідэнта з інтэлігенцыяй і асабіста са мной».

«І ў Расіі, і ў Беларусі няма ніводнай ідэі, акрамя ваеннай ідэі. Толькі б была ўлада. Толькі б утрымаць уладу.Так што, вы ведаеце, я заўсёды гэта кажу, калі гэта абра-


Сяргей Гудзілін

за беларускага або рускага народа, то я не ведаю, дзе і ў якім часе мы жывём», — канстатавала яна.

Адметна, што свае словы Лукашэнка прамаўляў, калі ўручаў ордэн Францішка Скарыны другаснаму, але вернаму ўладам расійскаму кампазітару. Затое ўзнагароду не атрымлівалі ні Быкаў, ні Барадулін, ні Вольскі, ні Міхалок, ні Алексіевіч.

ЗП

## Казько: Лукашэнка злуе, што людзі прыслухоўваюцца да Алексіевіч, а не да яго

Пісьменьнік, лаўрэат літаратурнай прэміі Гедройца ў 2015 годзе Віктар Казько адзначае, што Аляксандр Лукашэнка дэманструе нецярпімае стаўленне не толькі да канкрэтнай асобы, нобелеўскай лаўрэаткі Святланы Алексіевіч, а да ўсёй культуры, да таго, што мае прыкметы беларускай, як ён кажа, «сацыяніальнасці»:

«Яму хочацца, каб мы былі як авечкі ў загоне, слухалі, што скажа пастух-правадыр. Але ў мастацтве так не можа быць. Мастак таму і мастак, што мае сваё меркаванне. І толькі праз адлюстраванне гэтага меркавання можа адбывацца творчасць. Мастакі не хочуць быць у статку, брахаць на загад.

Святлана Алексіевіч — асоба, да якой прыслухоўваюцца. Як да Коласа, як да Купалы. Таму што ў словах такіх літаратараў заўсёды ёсць нешта прарочае. Вось Лукашэнка і злуецца, што людзі хутчэй прыслухаюцца да Алексіевіч, чым да яго».

**Радыё «Свабода»**

## Баскаў, Бабкіна, Кіркораў — каму ўручалі ордэн Францыска Скарыны

Хто, апроч Віктара Дробыша, атрымліваў прэстыжную беларускую ўзнагароду?

Ордэн Францыска Скарыны ўручаецца за развіццё беларускай культуры альбо за гуманітарную, дабрачынную дзейнасць.

Першае ўзнагароджванне адбылося яшчэ ў 1997 годзе, тады ордэн атрымаў мастак Міхаіл Савіцкі. З цягам часу раздача ўзнагароды пайшла на паток. Кавалерамі сталі больш за 150 чалавек — сярод іх такія заслужаныя перад Беларуссю людзі, як Ігар Лучанок, Яўген Глебаў, Уладзімір Мулявін...

Асабліва шмат ордэнаў Францыска Скарыны атрымалі расійскія палітыкі: Барыс Ельцын, Юрый Лужкоў, Генадзій Селязнёў.

Таксама сярод кавалераў — прадстаўнікі расійскай попкультуры, часта нізкапробнай. «Наша Ніва» нагадвае, хто з іх, паводле дзяржавы, спрычыніўся да развіцця беларускай культуры і спрабуе знайсці іх сувязь з Беларуссю.

**2000 год. Аляксандра Пахмутава**

Музыка да некаторых хітоў «Песняроў», напрыклад «Белавежская пушча» і «Белоруссия», напісаная менавіта Пахмутавай.

**2006 год. Надзея Бабкіна**

Папулярызатар расійскай народнай песні ў Беларусь траплялa толькі падчас канцэртаў, год за годам за шчодрыя ганарары наведваючы «Славянскі базар».

**2006 год. Мікалай Баскаў**

Аляксандру Лукашэнку надзвычай падабаецца «Шарманка». Гэта ўсё, што дастаткова ведаць пра Баскава і ордэн Францыска Скарыны.

**2010. Юрый Антонаў**

Савецкі спявак вырас у Маладзечне, куды перавялі ягонага бацьку-вайскоўца.

**2012 год. Філіп Кіркораў**

У сярэдзіне 2000-х Кіркораў дапамагаў беларускім удзельнікам на «Еўрабачанні» і надта пакрыўдзіўся, што яго не ўзнагародзілі. Праўда, на пытанне, хто такі Францыск Скарына, так і не адказаў.

**2015 год. Віктар Дробыш**

Кампазітар не працаваў з беларускімі выканаўцамі, затое правадзіў дзяцінства ў Лоеўскім раёне, дзе жылі яго сваякі.

**Браніслаў Юрэвіч**

## Як на Нобелеўскую прэмію Алексіевіч адрэагавалі ў Расіі

Ва ўсходняй суседцы Беларусі не да канца разумеюць, як жа рэагаваць на Нобелеўскую прэмію па літаратуры для Святланы Алексіевіч. З аднаго боку, яна піша на рускай мове, але з іншага — бязлітасна крытыкуе сённяшнюю Расію. Што тычыцца вядомых расійскіх творцаў, то, мабыць, не трэба адкідваць і ноткі зайздрасці. «НН» сабрала рэакцыі расійскіх СМІ і топавых персон на ўзнагароду Алексіевіч.

«У сутнасці, маглі б даць Васілю Быкаву. У свой час ён ненавідзеў савецкую ўладу, меў шмат пытанняў да Расіі, але ён быў вялікі пісьменнік. І беларус. Але гаворка ж не пра літаратуру. Алексіевіч — пісьменніца, але не пісьменніца, руская, але не руская. Тое, што трэба для Нобелеўскага камітэта. «А я вось зараз вам на злосць ткну сабе ў вока пальцам». Ну, ткні. Ткнуў? Прыгожае ў цябе вока, бэзавае. Насамрэч, гэта прэмія Расіі. Яе незалежнасці, яе ўплыву, яе месцу ў свеце. Слава Святлане Алексіевіч, таварышы».

**Захар Прылепін, пісьменнік**

«Алексіевіч — чарговая траваедная хатняя гаспадыня, якая атрымала прэмію. Адзіная праца пісьменніцы, якая выклікала хоць нейкае ажыўленне, — «Цынкавыя хлопчыкі». Але гэта было ў канцы 1980-х, і кніга даўно састарэла».

**Эдуард Лімонаў, пісьменнік, палітычны фрык**

«Алексіевіч з'яўляецца фактычна істэрычным ксенафобам, які палівае брудам усё рускае».

**Сяргей Маркаў, прафесар МГІМО**

«Я вельмі рада за Святлану Алексіевіч і за рускую культуру, за рускую літаратуру, якая атрымала чарговы бонус. За беларускую літаратуру. «Маіх» кандыдатаў у пяцёрцы намінантаў на прэмію ў гэтым годзе не было. Мая пяцёрка была б іншая. У мяне іншы густ і іншыя прыярытэты».

**Людміла Уліцкая, пісьменніца**

«Гэтым рашэннем Нобелеўскі камітэт сказаў, што сыры магнітафонны запіс, малаапрацаваныя, непрыцягальныя тэксты цяпер цэняцца. Простая рэч, ціск на слёзную залозу, аповяд пра рэчы важныя, але сырыя, у рэпарцёрскім выглядзе — гэта больш актуальна і сучасна. Нобелеўскі камітэт вырашыў гэта ўзнагародзіць. Гэта характарызуе культурны ўзровень самога Нобелеўскага камітэта».

**Тацццяна Талстая, літаратар**

«Цяпер уручылі Нобеля добра вядомай Алексіевіч, савецкай пісьменніцы другога эшалона, мабыць, толькі за тое, што яна не шануе сучасную Беларусь і, відома, адгадайце, якую яшчэ краіну? Правільна, не шануе сучасную Расею! (Як вы адгадалі?)».

**Пракрамлёўскі сайт Lifenews.ru**

«Можна ўявіць, як былі ўражаныя дыфірамбамі Святлане Алексіевіч грамадзяне Расеі ў Крыме і неграмадзяне Расіі на Данбасе. Ім гэтая спадарыня знаёмая ў якасці актыўнай прапагандысцкай канцэпцыі «акупаванага Крыма», лютай прыхільніцы Майдану, паплечніцы цяперашняй украінскай улады. Чаму б дзяржаўным расійскім СМІ, якія папулярызуюць Алексіевіч, не нагадаць суграмадзянам аб яе спецыфічных поглядах? Чаму б не праінфармаваць, што галоўная ідэя яе творчасці — антысаветызм?»

**«Литературная газета»**

«Не варта папракаць яе ў нелюбові да Расеі, да народу. Тут іншае — маніпулятар настолькі шчыльна павязаны сваімі выбудаванымі схемамі, што рэальнасць, жывое жыццё ён ужо не можа адэкватна ўспрымаць».

**«Литературная Россия»**

«Святлана Алексіевіч — літаратурны работнік сярэдняй рукі».

**Уладзімір Лічуцін, пісьменнік**

«Спадарыня Алексіевіч атрымала Нобелеўскую прэмію за свае выказванні, якія не маюць нічога супольнага з рэальнасцю. Прэмія спатрэбілася для арганізацыі нападу, па-першае, на Лукашэнку, па-другое, на Расею і Пуціна. Так што відавочна: Алексіевіч выконвала заданне, вось і ўсё. Гэта была палітычная аперацыя, ніяк не звязаная з літаратурай».

**Джульета К'еза, газета «Культура»**

«Замест Данцовай-Прылепіна-Акуніна-Шаргунова-прахanaўшчыны купіце адну кніжку Алексіевіч. У вас з'явіцца пункт адліку».

**«Московский комсомолец»**

«Алексіевіч прымае толькі тую частку рускага свету, якая да нашай Расіі не адносіцца».

**«Комсомольская правда»**

**Зміцер Панкавец**

Кіраўнік **штаба Караткевіч** апублікаваў рэкамендацыі краінам Захаду.

# План Дзмітрыева

Экс-кандыдатка ў прэзідэнты Тацяна Караткевіч і Андрэй Дзмітрыеў наведалі Брусэль і Вашынгтон.

«За чатыры дні мы сустрэліся з вялікай колькасцю палітыкаў, экспертаў, чыноўнікаў», — кажа Дзмітрыеў.

Галоўнай тэмай размоваў было тое, піша ён, як будаваць адносіны з Беларуссю. І палітык пералічвае тэзісы.

«1. Перамовы павінны ісці на дзвюх пляцоўках: улада і грамадзянская супольнасць. Парадак дня перамоў з уладай павінен быць адкрыты. Беларусы павінны ведаць, пра што і на якіх умовах дамаўляюцца бакі. Гэтыя два кірункі павінны перасякацца, каб развіваць дыялог унутры краіны.

2. Любая дапамога павінна быць пакрокавай, і наступны этап павінен пачынацца толькі пасля фіксацыі выніку папярэдняга. Дапамога павінна быць накіравана на рэформы ў Беларусі, у першую чаргу эканамічныя, адукацыйныя, рэформы кіравання.

3. Эканамічная і тэхнічная дапамога павінна быць звязаная з паэтапнымі зменамі ў палітычнай сферы, каб улада не магла выкінуць гэтыя пытанні з парадку дня.



Што ўлада можа зрабіць у найбліжэйшы час у палітычнай і грамадзянскай сферы:

1. Да парламенцкіх выбараў змяніць парадак фармавання ўчастковых камісій і падліку галасоў. Кандыдат павінен мець права накіроўваць ва ўсе ўчастковыя камісіі сваіх прадстаўнікоў. Падлік галасоў павінен ажыццяўляцца адкрыта, так, каб усе назіральнікі мелі магчымасць бачыць кожны бюлетэнь.

2. Даць акрэдытацыю тэлеканалу «Белсат» і вярнуць незалежныя газеты ў падпіску.

3. Зарэгістраваць Беларускую хрысціянскую дэмакратыю, Партыю свабоды і прагрэсу, «Гавары праўду».

4. Адмяніць артыкул, згодна з якім пераследуецца дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі.

5. Вярнуць у Мінск офіс АБСЕ.

6. Увесці пазіцыю амбудсмена. (Працэдура прызначэння павінна быць ўзгоднена з праваабаронцамі Беларускага Хельсінскага камітэта і «Вясны».)

7. Увесці мараторый на смяротнае пакаранне і падаць заяўку на ўступленне ў Раду Еўропы.

Мы таксама кажам пра важнасць Балонскага працэсу для Беларусі. Нам важна, каб ён не стаў толькі працэсам узгаднення навучальных праграм. Для нас прынцыпова, каб былі рэалізаваны прынцыпы ўніверсітэцкага самакіравання і празрыстасці справаздачнасці.

Падымаем тэму развіцця прыватнага сектара ў Беларусі. Рэформы павінны датычыць абмежавання права дзяржавы ўмешвацца ў прыватны сектар і памяншэння бюракратычных працэдур. Для чаго трэба развіваць электронны ўрад. Вярнуцца да інвестыцыйнага кодэкса і даць больш свабоды малому, сярэдняму бізнэсу і індывідуальнаму прадпрымальніцтву», — піша Дзмітрыеў.

Што да прагнозаў, то ён адзначае: «Галоўнае ўражанне: калі ў адносінах Беларусі з Захадам і чакаецца адліга, яна будзе зусім іншай якасці, чым гэта было мінулы раз. Усе вельмі асцярожныя, і ўзровень недаверу да беларускай улады вельмі высокі. У ЗША ён яшчэ вышэйшы, чым у ЕС. Зразумела чаму. Тут і падзеі 2010 года, і крэдыт МВФ, які дапамог рэжыму пратрымацца, але не прывёў да рэформаў.

На сёння няма ніякіх рашэнняў. Калі афіцыйны Мінск чакаў, што выпуск палітычных зняволеных і праведзенне выбараў у «спакойным» фармаце будуць дастатковымі для атрымання ад Захаду дапамогі і падтрымкі, гэтыя чаканні не апраўдаліся. Гэта толькі дало магчымасць пачаць дыялог. Усе рашэнні яшчэ толькі фарміруюцца, і, хутчэй за ўсё, у найбліжэйшы час будуць зробленыя толькі вельмі асцярожныя крокі, якія ў выпадку чаго можна лёгка адкруціць назад. Відавочна, што зараз пацяпленне значна больш трэба беларускім уладам, чым заходнім палітыкам», — піша Дзмітрыеў.

Ці змяніліся адносіны Масквы і Мінска? Або патэнцыял Масквы праводзіць у Беларусі сваю палітыку? Двух гэтых пытанняў палітык не кранае, хоць менавіта на іх трэба адказаць, каб ацаніць рэалістычнасць плана Дзмітрыева.

**Мікола Бугай**

## Візіт Караткевіч у Вашынгтон: што засталося за кадрам

Былы супрацоўнік МЗС Беларусі **Валер Кавалеўскі** падзяліўся асабістымі ўражаннямі ад публічнага мерапрыемства Караткевіч і змітрыева ў Вашынгтоне.

«1. Прыезд у Вашынгтон ім арганізаваў Нацыянальны дэмакратычны інстытут.

2. Караткевіч прамаўляла па-руску, Дзмітрыеў перакладаў на англійскую. Пры гэтым часта яго пераклад выходзіў за межы таго, што казала Караткевіч.

3. На мерапрыемстве ў Цэнтры Вільсана прысутнічала зусім няшмат людзей. У зале на чалавек 90 сабралася 27 слухачоў.

4. Дзмітрыеву рэзка не спадабалася пытанне пра крыніцы фінансавання. У адказ ён параіў не займацца тэорыямі змовы. Пытанні за пачатковы перыяд дзейнасці «ГП» ён параіў адрасаваць Някляеву.

5. Выступала Караткевіч упэўнена, часта гаварыла пра сябе ў трэцяй асобе.

6. Палічыла сваім дасягненнем увагу Лукашэнкі да праблемы расійскай вайсковай базы. Настойвала на тым, што ў кампаніі не дыстанцыявалася ад апазіцыі, а наадварот — злучыла сілы ўсёй апазіцыі.

7. Яна без ваганняў абвергла свае ўласныя неаднаразовыя заявы пра гатоўнасць працаваць ва ўрадзе.

8. Эпізод з каментаром кіраўніка беларускай амбасады Паўла



Шыдлоўскага выглядаў гратэскна, прытым што сам ён трымаўся неяк прыніжана. Прадстаўнік улады, што літаральна абакрала Караткевіч на выбарах, хваліў яе за такт і годнасць — фактычна за яе гатоўнасць «не факусавацца на афіцыйных выніках» — пасля чаго ахвяра і яе кіраўнік парадаваліся ацэнцы і падзякавалі ўладзе, якая іх абакрала і падманула іх выбарцаў».

## Дачка шахцёра стане новым прэм'ерам Польшчы

На выбарах перамагла партыя «**Закон і справядлівасць**», што выступае за захаванне нацыянальных і хрысціянскіх традыцый і ліквідацыю сацыяльнай няроўнасці.

Кансерватары перамагаюць на парламенцкіх выбарах у Польшчы. Яны набралі каля 38% галасоў. Гэта дасць ім абсалютную большасць у парламенце і магчымасць самастойна сфармаваць урад.

За «Грамадзянскую платформу» (кіраўнік — дзейны прэм'ер Ева Копач) аддалі галасы 24%. Антысістэмная партыя спевака Кукіза — 9%, ліберальная партыя «Сучасная Польшча» — 7%, Польская сялянская партыя — 5%. Левыя зусім не праходзяць у Сойм. Яўка склала 51%. Гэта нармальна для Еўропы, дзе нікога не заганяюць галасаваць, затое старанна і прылюдна лічаць галасы.



У маі кандыдат ад «Закон і справядлівасці» Анджэй Дуда быў абраны прэзідэнтам Польшчы.

Польскія ліберал-кансерватары з кіраўнічай «Грамадзянскай платформы» і нацыянал-кансерватары з «Закона і справядлівасці» кансэнсусна праводзяць палітыку, скіраваную на падтрымку незалежнасці Беларусі і Украіны.

Перамога «Закона і справядлівасці» азначае больш кансерватыўную палітыку Польшчы ў сацыяльных пытаннях, яшчэ большы акцэнт на адстойванне нацыянальных інтарэсаў і барацьбу з карупцыяй.

**Сяргей Гезгала**

## Магутнасць Расіі будзе прырастаць Арктыкай?

Масква збудавала каля **Паўночнага полюса** гіганцкую вайсковую базу «Арктычны трыліснік».

Як пішуць расійскі СМІ, новая вайсковая база размешчаная на вялікім востраве Зямля Аляксандры, які адносіцца да архіпелага Зямля Франца-Іосіфа. Вакол дадзенай тэрыторыі Расія хоча здабываць нафту і газ.

У Мінабароны РФ адзначылі, што плошча базы — 14 квадратных кіламетраў. Будаўнічыя працы амаль завершаныя. Усе будынкі базы, якая атрымала назву «Арктычны трыліснік», размаляваныя ў белы, чырвоны і сіні колеры, як на сцягу Расіі.

Выданні нагадваюць, што Расія нарошчвае сваю вайсковую прысутнасць у Арктыцы, а ў сваёй вайсковай дактрыне прыярытэтным лічыць засваенне багатага карыснымі выкапнямі рэгіёна.

**АГ**



# Пяць цікавостак генеральнага плана развіцця Мінска

У Мінску працягваецца грамадскае абмеркаванне новага генеральнага плана развіцця Мінска да 2030 года. Якія цікавыя прапановы і ідэі ўтрымліваюцца ў 130-старонкавым дакуменце?

### 1. Насельніцтва расселяць па спадарожніках

Распрацоўшчыкі дакумента папярэджваюць, што пры захаванні цяперашніх тэндэнцый насельніцтва Мінска да 2030 года можа вырасці да 2,12 мільёна чалавек. Аднак план трымацца ў рамках 2 мільёнаў ніхто не адмяняў!

Таму насельніцтва, якое хацела б перабрацца ў сталіцу, будуць заахвочваць асядаць у гарадах-спадарожніках. Мяркуецца, што найбольш разрасецца Рудзенск — з 10 да 81 тысячы чалавек. У Дзяржынску будуць жыць 40 тысяч чалавек, у Смалявічах — 30 тысяч, у Фаніпалі і Заслаўі — 23 тысячы, а ў Лагойску — 19 тысяч.

### 2. Што знясуць і дзе пабудуюць

Будаўніцтва ў Мінску будзе скарачацца. Вялікі новы жылы раён у межах МКАД з'явіцца толькі адзін — у раёне Навінак, на месцы цяперашняй птушкафабрыкі.

Іншыя высотныя дамы будуць з'яўляцца на месцы вынесеных прадпрыемстваў (напрыклад, «Гарызонта» ці завода імя Кірава), а таксама ўздоўж магістральных вуліц Багдановіча і Арлоўскай, дзе пакуль стаяць прыватныя дамы.

Знос прыватнага сектара — самае балючае пытанне для мінчукоў. Кніга скаргаў і прапановаў спісаная дзясяткамі абураных меркаванняў! Адныя просяць пакінуць іх хату ў спакоі, іншыя, наадварот, просяць хутчэй знесці іх жыллё і выплаціць кампенсацыю.

Спраўдзіць лёс кожнай сядзібы можна ў распрацоўшчыкаў генеральнага плана падчас грамадскага абмеркавання.

Агулам запланавана знесці 30% прыватных дамоў, а 70% — пакінуць. У цяперашнім генеральным плане лічбы былі адваротныя — 70% супраць 30%.

### 3. Новыя дарогі і транспартныя колы

Што да транспартнага будаўніцтва, то запланавана стварэнне некалькіх новых радыяльных дарог. Вуліца Ваўпшасава працягнецца ў бок аэрапорта, а вуліца Маякоўскага перарасце ў трасу да Рудзенска.

Новыя вуліцы плануецца пабудаваць уздоўж чыгуначных шляхоў у маскоўскім, гомельскім і брэсцкім накірунках. А Байкальскую вуліцу працягнуць да Магілёўскай шашы.

Праекціроўшчыкі збіраюцца ўсё ж дабудаваць паўнавартае першае транспартнае кола, а пасля замахнуцца і на элементы трэцяга і чацвёртага колаў (МКАД будзе лічыцца пятым).




Новы генеральны план выстаўлены ў памяшканні па адрасе Камсамольская, 8-204. Доступ для наведнікаў адкрыты ў будні з 14 да 18 гадзін, у выходныя — з 10 да 15 гадзін. Грамадскае абмеркаванне працягнецца да 5 лістапада.

**Начальнік майстэрні генеральнага плана інстытута «Мінскграда» Аляксандр Акенцьеў асабіста адказвае на пытанні мінчукоў.**

### 4. Кальцавая лінія метро

Пакуль у Мінску будуецца трэцяя лінія метро, абмяркоўваюцца перспектывы наступнай, чацвёртай. Паводле ранейшай задумы, яна мусіла злучыць Вяснянку і Серабранку.

Аднак цяпер з'явілася новая ідэя — зрабіць чацвёртую лінію кальцавой. Праекціроўшчыкі прапануюць пачаць будаўніцтва з участка паміж плошчай Бангалор і аўтавакзалам «Усходні» (гэта станцыі «Парк Дружбы народаў», «Сурганава», «Дом друку», «Платонава», «Уральская», «Даўгабродская», «Аўтавакзал «Усходні»). Далей лінія пойдзе ў бок вуліцы Прытыцкага — станцыі «Дзянісаўская», «Мінск-свет», «Жукава», «Праспект Дзяржынскага», «Харкаўская» і «Прытыцкага». Нарэшце, апошні ўчастак уключае ў сябе станцыі «Альшэўскага», «Вяснянка», «Старавіленская» і «Арлоўская».

Агулам чацвёртая лінія метро ў выпадку будаўніцтва расцягнецца больш чым на 25 км.

### 5. Новыя паркі

Адной з задач генеральнага плана з'яўляецца азеляненне Мінска. Распрацоўшчыкі задумалі стварэнне некалькіх новых паркаў. Месца ў раёне перасячэння праспекта Незалежнасці і вуліцы Філімонава, дзе мае быць пабудаванай новая штаб-кватэра «Газпрома», атрымае назву Прэзідэнцкі парк. Зрэшты, зона адпачынку там існуе і цяпер.

Плануецца акультурыць і тэрыторыю між вуліцамі Прытыцкага і Панамарэнкі. Тамтэйшая зялёная зона стане Гарадскім дзіцячым паркам, які расцягнецца прыблізна на 4 км².

Апроч таго, у склад Мінска плануецца ўключыць Заслаўскае вадасховішча. Прыбярэжная тэрыторыя будзе лічыцца найвялікшай зонай адпачынку сталіцы.

**Ягор Марціновіч**

## Украіна атрымае рэкордна танны расійскі газ

Сярэднегадавая цана на газ для Украіны прагназуецца на ўзроўні $146,47 за тысячу кубаметраў. Такая лічба закладзеная ў расійскі бюджэт на наступны год.

Яшчэ мінулым летам Уладзімір Пуцін выстаўляў ураду Украіны ультыматыўную цану ў $385 (столькі плаціў Віктар Януковіч) і папярэджваў, што ў выніку адмовы «адносіны пяройдуць у іншую стадыю».

Аднак Украіна знайшла альтэрнатыву ў выглядзе рэверсных паставак газу з Еўрасаюза.

**ЯМ**

## «Бітумныя схемы» адраджаюцца

У 2014 годзе Беларусь экспартавала бітумных сумесяў амаль на паўмільярда даляраў. Краіна нечакана ўзляцела ў сусветныя лідары па экспарце тавару. Бітумныя сумесі нібыта прадаваліся ў Вялікабрытанію, аднак гэтая краіна не пацвярджала пастаўкі. Выказваліся меркаванні, што пад відам бітумных сумесяў для сыходу ад пошлін прадавалася іншае паліва, напрыклад, мазута.

Ад пачатку 2015 года экспарт бітумных сумесяў амаль знік, ён не перавышаў мільёна даляраў на месяц. Аднак у наступныя месяцы схема пачала набіраць абароты, адзначае блогер iva-dim. У маі Беларусь прадала сумесяў на $3,7 мільёна, у чэрвені — на $4,3 мільёна, у ліпені абароты дараслі да $6,9 мільёнаў, у жніўні было зафіксавана яшчэ $6,2 мільёна.

Агулам — больш за $20 мільёнаў. Пакуль гэта далёка ад аб'ёму леташніх схем.

**ЯМ**

### Сцісла

**Заробак ад пачатку года скараціўся з $621 да $389**

Сярэдні заробак па краіне скарачаецца другі месяц запар. У верасні склаў 6 864 тысячы рублёў. За мінулы месяц беларусы недалічыліся 108 тысяч рублёў. У пераліку на даляры па курсе Нацбанка за верасень зарплата была роўная $389. У снежні мінулага года яна дасягала $621.

**Заснавальнік Zara стаў самым багатым чалавекам у свеце**

Заснавальнік гандлёвай сеткі *Zara*, 79-гадовы іспанец Амансіа Артэга, абышоў у спісе *Forbes* заснавальніка *Microsoft* Біла Гейтса. Яго маёмасць перавысіла $80 мільярдаў.

**«Белавія» адкрыла штодзённы рэйс у Адэсу**

Кошт квітка ў адзін бок складае 97 еўра, туды і назад — 196 еўра. Паколькі паміж Украінай і Расіяй цалкам спыненыя авіязносіны, рэйс у Адэсу могуць актыўна выкарыстоўваць як украінскія, так і расійскія турысты.

**ЯМ**

## У якім узросце ідуць на пенсію?

Улады ініцыююць дыскусію пра **павышэнне пенсійнага веку.**




Адразу пасля заканчэння выбарчай кампаніі Аляксандр Лукашэнка зноў загаварыў пра неабходнасць павышэння пенсійнага веку.

«Нам трэба яго павышаць, але людзі гэтага не хочуць. Таму ў нас у краіне невялікія пенсіі. Мы сёння маем той пенсійны фонд, які маем», — падкрэсліў Лукашэнка. Сярэдняя пенсія па ўзросце трохі не дацягвае да 2,9 мільёна рублёў. Гэта $164 у эквіваленце.

Па словах Лукашэнкі, пытанне павышэння пенсійнага ўзросту можа «вырашацца праз людзей». «Мы павінны параіцца з імі, будзем іх пераконваць, прасіць іх згоды», — сказаў ён.

«Я адназначна скажу, як просты грамадзянін, што пенсійны ўзрост трэба павышаць жанчынам. Цяперашнія жанчыны ў 55 гадоў яшчэ замуж гатовыя выйсці і шмат разоў выходзяць. Напэўна, ранавата яшчэ на пенсію», — пракаментавала сітуацыю старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына. Яна мяркуе, што праводзіць рэферэндум па пытаннях пенсійнай рэформы немэтазгодна: маўляў, народ усё адно прагаласуе супраць.

Беларусь нароўні з Расіяй і Узбекістанам застаецца апошняй краінай з такім нізкім узростам выхаду на пенсію.

**ЯМ**

| | Працягласць жыцця мужчын | Пенсійны век мужчын | Працягласць жыцця жанчын | Пенсійны век жанчын |
|---|---|---|---|---|
| **Беларусь** | 67,8 | 60 | 78,4 | 55 |
| **Расія** | 65,3 | 60 | 76,5 | 55 |
| **Украіна** | 66,3 | 60 | 76,2 | 57* |
| **Літва** | 68,7 | 62,5 | 79,9 | 60 |
| **Латвія** | 69,2 | 62 | 79 | 62 |
| **Польшча** | 72,8 | 65 | 81,1 | 60 |

*Паводле закона, лічба павялічваецца і да 2021 года вырасце да 60 гадоў

### Апытанне на nn.by

**Ці падтрымліваеце Вы павышэнне пенсійнага ўзросту?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 307 | 14% |
| Не | 535 | 24% |
| Толькі для жанчын | 165 | 7% |
| Толькі для мужчын | 7 | 0% |
| Толькі для сілавікоў | 1247 | 55% |

Прагаласаваў 2261 карыстальнік

# Як асобныя афіцэры і святары рыхтуюць салдатаў «рускага свету» на Гродзеншчыне

## Супраць каго збіраюцца ваяваць гэтыя «воіны Хрыста»?

Працяг са старонкі 1.

Пятро Зубацкі адказвае, што «сапсаванай палякамі рускай мовай? Ніколі!».

Сяргей Зубацкі ж расказвае сваім сябрам пра тое, што дарма Лукашэнка «захапляецца ліцвінізмам» і што нібыта беларусы Гомельшчыны і Магілёўшчыны «воўкам вылі», калі іх «гвалтоўна» далучалі да БССР у 1926 годзе.

Словам, Зубацкія — патэнцыйныя сепаратысты, якія таго і не хаваюць.

### Інструктары

А вось мы бачым Зубацкіх на фота сярод падлеткаў.

На некаторых дзецях — чорны берэт.

Гэта фота з палявых вучэнняў выхаванцаў клубаў «Славяне» і «Дружына» — гэтак званых «праваслаўных вайскова-патрыятычных» клубаў Гродзенскай епархіі.

Зубацкія тут — інструктары.

Яны прадстаўляюць тут структуру «Казацкі спас».

Мы сталі разбірацца, хто яшчэ з дарослых на гэтых фотах. І былі шакаваныя, калі выявілі прынамсі двух афіцэраў міліцыі.

### Чаму ў Гродне?

Гродзеншчына — самы каталіцкі рэгіён Беларусі. Доля праваслаўных вернікаў тут меншая, чым у іншых абласцях. Але менавіта Гродзенская епархія лідзіруе ў іншым — актыўнасцю ў стварэнні гэтак званых «вайскова-патрыятычных» клубаў.

У вобласці іх дзейнічае аж пяць. Гэта «Дружына» пры храме Богаяўлення ў Шчучыне, «Славяне» пры Свята-Пакроўскім кафедральным саборы Гродна, «Віцязі» пры Свята-Уладзімірскай царкве ў Гродне, «Белая Русь» пры храме Святога дабраславёнага князя Аляксандра Неўскага ў вёсцы Верцялішкі і клуб «Братэрства» пры храме ў гонар Сабора Усіх Беларускіх Святых горада Гродна.

Акрамя Гродна, праваслаўныя вайскова-патрыятычныя клубы зафіксаваныя ў Віцебску, Слоніме, Брэсце, Тураве, Беразіне, Магілёве, Гомелі, Полацку, Бабруйску. Усяго іх 14.

Мы мірная, спакойная краіна. Ніякіх пагроз праваслаўю няма, у краіне ўжо сотні гадоў не было ніякай міжрэлігійнай варожасці. Нашто праваслаўным ваенізаваная падрыхтоўка?

«Наша Ніва» датэлефанавалася да протаіерэя Яўгена Павельчука, які ў Гродзенскай епархіі адказны за супрацу з вайсковымі структурамі і з'яўляецца заснавальнікам «Славян» і «Дружыны». Першы раз, пачуўшы, адкуль яму тэлефануюць, Яўген сказаў «до свідання», але пасля таго, як яму пазванілі з прэс-службы епархіі, усё ж пагадзіўся пагаварыць.

«Мы вучым дзяцей патрыятызму, патрыятызму беларускаму, — сказаў Павяльчук, — і калі вы ацэньваеце гэтую працу толькі па карцінках у інтэрнэце, то гэта не правільна. Трэба ведаць працу клубаў знутры. Нам крыўдна, што вы вінаваціце нас у тым, у чым мы не вінаватыя. Мы рыхтуем верующих грамадзян Беларусі».

На пытанне, ці не бачыць ён пагрозы беларускаму патрыятызму ў тым, што з дзецьмі займаюцца адкрытыя расійскія шавіністы, Павяльчук сказаў, што такога няма, і абвінавачў нас у хлусні. Аднак змяніў тон пасля прыгадвання фотасправаздач, змешчаных на сайце арганізацыі «Казацкі спас».

«Ну было, так, яны [інструктары Шапко] адзін раз бралі ўдзел у палявым выхадзе, і што? Не бачу абсалютна нічога адмоўнага», — сказаў Павяльчук.

### «Вырасцеце воінамі Хрыста»

У мілітарызаваныя суполкі набіраюць збольшага «цяжкіх», агрэсіўных падлеткаў. Дзеці 4 разы на тыдзень наведваюць заняткі, дзе з імі праводзяць духоўныя гутаркі, але таксама вучаць рукапашнаму бою, стральбе з аўтаматаў і пісталетаў, навыкам выжывання, асновам медычнай дапамогі.

Непаўналетніх сяброў гэтых «клубаў» больш за 100 чалавек.

Адзін-два разы на месяц дзеці разам з інструктарамі выпраўляюцца ў лес, каб правераць тэорыю на практыцы — пад выбухі штучных гранат яны гуляюць у страйкбол і адпрацоўваюць паводзіны ў баявых сітуацыях.

«Мы чакаем плёну, спадзяёмся, што ўсе вы вырасцеце годнымі воінамі Хрыста», — такія словы благачыннага Шчучынскай акругі іерэя Аляксандра Пастарняка на адрас кадэтаў прыводзіць сайт Church.by.

### Чорныя берэты

У «клубах» епархіі ёсць і свае званні, аналагічныя вайсковым, а таксама найвышэйшая форма прызнання здольнасцяў– права насіць «чорны берэт».

Каб атрымаць «чорны берэт», выхаванец г.зв. «вайскова-патрыятычнага» клуба мусіць прайсці выпрабаванні накшталт спрошчанай здачы на «крапавы»: прабегчы 10 кіламетраў у поўнай выкладцы, прайсці паласу перашкодаў і адстаяць тры раўнды ў рукапашным баі з інструктарам.

Апроч таго, «чорныя берэты» бясплатна скачуць з парашутамі на базе Гродзенскага аэраклуба.

«Яны непаўналетнія, таму мы з іх грошай не бяром, мы ж бюджэтная арганізацыя», — сказалі «Нашай Ніве» ў аэраклубе.

Форма, харчаванне, пнеўматычная зброя — на ўтрыманне гэтых клубаў сыходзіць велізарная сума. Да прыкладу, кошт найтаннейшага патрыманага страйкбольнага аўтамата Калашнікава пачынаецца ад 120 даляраў.

Падчас прысягі дзеці клянуцца быць «вернымі чадамі Святой Рускай Праваслаўнай Царквы».

### «Хто твае куміры?» — «Мікалай II і Дзёмушкін»

Хто кіруе «Славянамі» і «Дружынай» — узгаданымі клубамі, на трэніроўкі якіх запрашаюць братоў Зубацкіх і іншых падобных «інструктараў»?

Клуб «Дружына» заснавалі святар Яўген Павяльчук і супрацоўнік Шчучынскага дэпартамента аховы Дзяніс Мішкель.

Потым протаіерэя Яўгена перавялі ў Гродна, дзе ён заснаваў яшчэ адзін клуб, «Славяне». Неўзабаве ў Гродна перабраўся і Дзяніс Мішкель, стаўшы адначасова і інструктарам новага клуба, і старшым інспектарам аддзялення ідэалагічнай работы Гродзенскага абласнога ўпраўлення дэпартамента аховы МУС.

Яшчэ адзін інструктар клуба «Дружына» — начальнік аператыўна-дзяжурнай службы Шчучынскага РАУС маёр міліцыі Павел Найда.

Хтосьці можа не адшукаць у гэтых клубах нічога кепскага. Усё ж фізічная нагрузка для падлеткаў. Але для чаго тыя расійскія сцягі? Чаму няма папулярызацыі поспехаў нашай



Злева направа за кадэтамі: маёр міліцыі Павел Найда, «казакі» Пятро Зубацкі, Сяргей Зубацкі.



Лейтэнант міліцыі Мішкель і протаіерэй Яўген Павяльчук (справа), стваральнікі клубаў «Славяне» і «Дружына».




Проста 13-гадовыя пацанчыкі з аўтаматамі.



Прысяга «Святой Рускай Праваслаўнай Царкве» з «калашамі».

---

**Адзіныя казакі ў беларускай гісторыі**

У старадаўняй Беларусі казакоў ніколі не было, у даўнія часы яны былі ва Украіне, а нашы продкі лічылі іх бандзюгамі, якія сеюць хаос.

Адзіным выключэннем сталі казакі палкоўніка Паклонскага на Магілёўшчыне, што ўзніклі пад уплывам казацтва Багдана Хмяльніцкага ў часе вялікай вайны Рэчы Паспалітай, Масковіі, Швецыі і Запарожскай Сечы у 1648—1654 гадах. Спачатку яны дапамаглі маскоўскаму цару захапіць Магілёў, а калі раскусілі характар саюзнікаў, уначы перарэзалі расійскі гарнізон да апошняга чалавека.

**Хто такія сённяшнія «казакі»?**

Сучасныя «казацкія» арганізацыі Беларусі — гэта сумнеўнага паходжання мілітарызаваныя суполкі. Іх некалькі: «Усебеларускае казацтва», «Нёманскае казацтва», «Казацкі спас» ды іншыя. Ні адна з іх не мае дачынення да сапраўднага, гістарычнага казацтва. Але мэты найбольш радыкальных з іх мала розняцца ад мэт колішніх баевікоў РНЕ — радыкальнай арганізацыі, дзейнасць якой беларуская спецслужбы спынілі ў сярэдзіне 2000-х.

краіны — Беларусі, праслаўлення нашых герояў — беларускіх, ушанавання нашай сімволікі — нацыянальнай ці дзяржаўнай, каму як падабаецца?

Вось, да прыкладу, скрыншоты са старонак выхаванцаў Дзяніса Мішкеля Укантакце.

«Хто твае куміры?» — пытаюцца ў аднаго з выхаванцаў Мішкеля на старонцы ў сацсетках. «Мікалай ІІ і Дзёмушкін», — адказвае хлопец. (Зміцер Дзёмушкін — расійскі скінхэд, ідэолаг рускага нацыяналізму.)

Іншы хлопец змяшчае расійскі імперскі сцяг на сваёй старонцы побач з уласнымі фотаздымкамі.

Хто заклаў такія ідэі ў галовы падлеткаў, якія яшчэ не скончылі і школы?

### І рэклама РНЕ

Адміністратары суполкі «Праваслаўных вайскова-патрыятычных клубаў Гродзенскай епархіі» Укантакце не саромеюцца выкладаць на сцэнцы суполкі расійскія сцягі.

А на інтэрнэт-старонцы клубаў «Славянін» і «Дружына», якімі кіруе лейтэнант-ідэолаг гродзенскай міліцыі Дзяніс Мішкель і маёр Найда, увогуле змешчаная рэклама... баевікоў РНЕ! У ёй добраахвотнікаў запрашаюць на вайну «ў абарону рускіх на тэрыторыі былой (!) Украіны».

Афіцыйнай беларускай сімволікі ў суполках няма ўвогуле.

### Ад каго «спасаць» збіраюцца?

Зубацкія належаць да дарослай арганізацыі «Казацкі спас».

З кантэнту ў суполцы «Казацкага спасу» ў сацсетках вынікае, што гэтыя людзі проста прагнуць далучыцца да Расіі. Хоць арганізацыя падае сябе як «беларускіх казакоў», у іх суполцы толькі расійскія і імперскія сцягі, да якіх далучаныя запісы накшталт «Мы — руския, з намі Бог».

На іх сайце з'яўляюцца і справаздачы аб удзеле сяброў «Казацкага спасу» ў маскоўскіх семінарах. Карэспандэнты «Нашай Нівы» яшчэ дзесяць гадоў назад, робячы журналісцкія расследаванні, назіралі, як на аналагічныя сустрэчы масава вазілі і будучых кіраўнікоў баевікоў Данбаса.

Дарэчы, кіраўнік «Казацкага спасу» Пятро Шапко — часты госць на ток-шоу Гігіна. Праўда, у Вадзіма Францавіча яго прэзентуюць не як «казака», а як кіраўніка ініцыятывы «Горад без наркотыкаў».

### Небяспечныя сувязі

Бачылі кадры з Данбаса, у што тамператварылі багаты край? Тое самае зробяць і з Беларуссю, калі мы будзем дурнямі.

Ці звязаныя нечым між сабой, акрамя ідэйнай блізкасці, кіраўнік «Казацкага спасу» Шапко і афіцэры беларускай міліцыі Мішкель і Найда? Ці гэта проста выпадковасць і магчымасць такім чынам «асвойваць» сродкі, што паступаюць ад няясных расійскіх структур па каналах РПЦ? Мы не маем адказу на гэтае пытанне.

Дзяніс Мішкель падчас размовы з журналістам «НН» сказаў толькі, што «не разумее, пра што ідзе гаворка», і кінуў трубку.

Калі беларускіх дзяцей у 10 гадоў аддаюць на «выхаванне» інструктарам, якія не прызнаюць беларусаў за нацыю, якія былі б рады ліквідацыі Беларусі як дзяржавы, то што гэта калі не бомба запаволенага дзеяння? Прыкра, што гэтаму свядома ці несвядома спрыяюць і асобныя праваслаўныя святары, і дзейсныя супрацоўнікі беларускай міліцыі.

**Арцём Гарбацэвіч**




**Скрын са старонкі выхаванца лейтэнанта Мішкеля. Хлопцу 14 гадоў, у ягоным статусе напісана А.С.А.В., што расшыфроўваецца як «Усе мянты — выродкі».**



**Маёр Павел Найда ў знак прызнання ўручае свайму выхаванцу нож.**




**Скрын са старонкі праваслаўнага вайскова-патрыятычнага клуба Гродзенскай епархіі.**







**Скрыны з суполкі «Казацкага спасу».**

**Тэхналогіі**

# Ізраіль прэзентаваў баявую лазерную сістэму «Жалезны прамень»

Ізраільскі канцэрн вайсковай прамысловасці «Рафаэль» (*Rafael Advanced Defense System*) прэзентаваў на выставе ў Сеуле найноўшую баявую лазерную сістэму «Жалезны прамень».



Новы комплекс быў прадстаўлены ў варыянце сістэмы супрацьракетнай абароны і ў версіі, скіраванай на барацьбу з беспілотнымі лятальнымі апаратамі. У склад перасоўнага комплексу ўваходзяць радыёлакацыйная ўстаноўка, пункт кіравання і дзве лазерныя ўстаноўкі магутнасцю «некалькі дзясяткаў кілават». Па паведамленнях кампаніі, іх магутнасць плануецца павялічыць да «некалькіх соцень кілават».

Установка здольная факусаваць лазерныя прамяні на плоскасць, роўную «плошчы манеты». Далёкасць паражэння «Жалезным праменем» складае каля двух кіламетраў. Крыніца таксама паведамляе, што ўстаноўка ўжо паспяхова пратэставаная. «Жалезны прамень» можна ставіць на любое шасі. Гэта залежыць ад патрэбаў заказчыка.

Пілотная версія сістэмы супрацьракетнай абароны «Жалезны прамень» («Керэн барзель», *Iron Beam*) была ўпершыню паказаная ў Сінгапуры ў лютым 2014 года. Акрамя барацьбы з беспілотнікамі і перахопу ракет звышмалога радыуса дзеяння, установка здольная перахопліваць артылерыйскія і мінамётныя снарады, на якія не рэагуе «Жалезны купал».

Галоўныя перавагі лазера перад ракетамі-перахопнікамі — ніжэйшы кошт стрэлу, неабмежаваны боезапас, ніжэйшы кошт абслугоўвання і меншая колькасць зброевага разліку, хуткае паражэнне цэлі (4—5 секунд).

Гэтая сістэма стане пятай у эшалананавай ізраільскай СРА, у дадатак да сістэм Хец-2 і Хец-3, «Чароўная палачка» і «Жалезны купал».

**СМ**

# У Мінску абмяркуюць заўтрашні дзень сусветнай эканомікі

Найбуйнейшая ва Усходняй Еўропе міжнародная канферэнцыя па краўдэканоміцы ICC-2015 адбудзецца 30 кастрычніка ў Мінску. Яе ўдзельнікамі стануць стваральнікі найбуйнейшых краўдфандынгавых кампаній Польшчы, Эстоніі, Вялікабрытаніі, Расіі, ЗША і Беларусі, ідэолаг краўдфандынгу Дэн Маром, заснавальнік і ўладальнік самага папулярнага сайта па краўдсорсінгу ў свеце crowdsourcing.org Карл Эспосці.

У мерапрыемстве возьмуць удзел больш за 300 чалавек, зацікаўленых у развіцці краўдэканомікі ў Беларусі, а таксама патэнцыйныя стваральнікі краўдфандынгавых і краўдсорсінгавых праектаў на постсавецкай прасторы.

Удзельнікамі канферэнцыі, у прыватнасці, стануць:

• Старшыня праўлення ААТ «Белгазпрамбанк» **Віктар Бабарыка** (Беларусь)
• Генеральны дырэктар Бізнэс-школы ІПМ **Павел Данейка** (Беларусь)
• Заснавальнік і фінансавы дырэктар кампаніі *RocketHub* (уваходзіць у топ-3 найбуйнейшых краўдфандынгавых платформаў свету) **Алан Хілел-Тук** (ЗША)
• Заснавальнік і суўладальнік платформы *EstateGuru.eu* **Марэк Партэл** (Эстонія)
• Заснавальнік і кіраўнік першай і самай вялікай краўдфандынгавай пляцоўкі Польшчы *PolakPotrafi.pl* **Якуб Сабчак** (Польшча)
• Заснавальнік і дырэктар краўдфандынгавай і краўдсорсінгавай платформы ў Вялікабрытаніі *Crowdaura* **Аўтар Сехра** (Вялікабрытанія)
• Заснавальнік Інстытута Камунікацый для сацыяльных медыя (IKOSOM) Берлінскага навукова-даследчага цэнтра для новых формаў электронных тэхналогій **Карстэн Венцлаф** (Германія)
• Кіруючы партнёр інавацыйна-футурыстычнай кампаніі *FutureNavigator* **Лізелот Лунгсэ** (Данія)
• Старшыня праўлення, заснавальнік Інстытута праблем мадэрнізацыі, стратэгіі і развіцця грамадства **Аляксандр Аніскевіч** (Беларусь)
• Генеральны дырэктар кампаніі *CollectiveIntelligenceSystems* **Антон Кандрацюк** (Расія)
• Выканаўчы дырэктар НП «Клуб дырэктараў па навуцы і інавацыях» **Уладзімір Кастэа** (Расія)
• Кіраўнік цэнтра кіравання ведамі «Альфа-Банка» **Антон Сабе-Панэк** (Расія)
• Кіруючы партнёр краўдсорсінгавай кампаніі *MillionAgents* **Радзівон Рэпін** (Расія)

# 150 тысяч даляраў выйграў у покер

Беларус Натан Чавускін азалаціўся.



У кастрычніку мальтыйскі курорт Сан-Джуліянс прымаў вялізны покерны турнір. Гэты гарадок лічыцца цэнтрам начнога і азартнага жыцця вострава.

Усяго ў турніры ўдзельнічала аж 947 чалавек з 57 краін. Але галоўным трыумфатарам стаў 27-гадовы жыхар Мінска Натан Чавускін. У выніку ён зарабіў 149 560 даляраў. Узнос для ўдзелу ў турніры складаў 1100 даляраў. Прызавы фонд — 918 тысяч.

У інтэрв'ю Натан Чавускін заявіў, што ягоная каманда існуе ўсяго тры месяцы, але мае ўласны сайт і школу, у якой можна спасцігнуць азы покера.

Таксама Чавускін сказаў, што «грошы наўрад ці памяняюць маё жыццё. Мая мэта — стаць сапраўднай зоркай спорту, бо покер — спорт, дзе ўвесь час трэба спаборнічаць з іншымі гульцамі».

Варта адзначыць, што ў турніры ўдзельнічаў яшчэ адзін беларус — Пятро Шаўцоў. Ён стаў 73-м, зарабіўшы 2200 даляраў.

**Зміцер Панкавец**

# Канстанцін Меладзэ і Вера Брэжнева пабраліся шлюбам у Італіі





Нарэшце, раман экс-удзельніцы «ВІА Гры» спявачкі Веры Брэжневай з прадзюсарам Канстанцінам Меладзэ завяршыўся шлюбам.

Італьянскія СМІ паведамілі, што пара пабралася шлюбам на курорце Фортэ-дэй-Мармі. Веру з Канстанцінам быццам бы нават распісаў мэр курортнага гарадка.

«Не магу сказаць больш за тое, што вы ўжо ведаеце, скажу толькі, што гэта адна з многіх пар, якая вырашыла распісацца ў нас», — сказаў мэр.

Паводле выдання *Il Tirreno*, на цырымоніі былі толькі блізкія сваякі і сябры.

У лютым 2014 года прэса пісала, што Меладзэ жыве ў Брэжневай і яе дачок. Потым казалі, што Веру рэгулярна бачаць на дачы Канстанціна пад Кіевам.

Акрамя таго, пару бачылі разам у Маскве.

**СГ**

**Малайцы**



**Рамонт на Нямізе: як будаўнікі берагуць дрэвы**

Нягледзячы на ўсе нязручнасці, звязаныя з рэканструкцыяй дарожнага пакрыцця і рамонтам на вуліцы Няміга ў Мінску, заўважныя і пазітыўныя моманты. Будаўнікі асцярожна закрылі пасаджаныя каля дарогі каштаны дошкамі, каб не пашкодзіць іх тэхнікай падчас рамонту.

**Меркаванні**

# Што такое беднасць у ЗША

Піша **Яраслаў Раманчук**.



Бюро перапісу насельніцтва ЗША апублікавала даклад аб стане беднасці ў ЗША. Зафіксавана рэкордная колькасць бедных — 46,2 мільёна, або кожны сёмы.

Але прывядзём некалькі фактаў пра жыццё бедных у Амерыцы.

— 80% бедных жывуць у дамах з кандыцыянерамі, а ў 1970 г. толькі 36% усіх амерыканцаў мелі кандыцыянеры.

— У 92% бедных хатніх гаспадарак ёсць мікрахвалевая печ.

— У амаль 3/4 усіх бедных хатніх гаспадарак ёсць аўтамабіль або грузавік.

— У 3/5 бедных сем'яў маецца два і больш транспартных сродкаў.

— У 2/3 бедных ёсць кабельнае або спадарожнікавае тэлебачанне.

— У 2/3 бедных сем'яў ёсць, як мінімум, адзін DVD-плэер.

— У паловы бедных сем'яў ёсць камп'ютар.

— Больш чым у паловы бедных сем'яў ёсць сістэма відэагульняў (Xbox або PlayStation).

— У 43% бедных сем'яў ёсць доступ у інтэрнэт.

— У кожнай трэцяй беднай сям'і ёсць тэлевізар-плазма ці LCD.

— Толькі 4% беднякоў заяўляюць, што недаядаюць.

— 49,5% бедных сем'яў жывуць у асобных дамах, 40% — у кватэрах, толькі 9,5% жывуць у вагончыках і бытоўках, на працягу года толькі 4% бедных сем'яў часова засталіся без жылля.

— Сярэдні бедны амерыканец мае больш жылой плошчы, чым сярэднестатыстычны (а не бедны) швед. Пра беларусаў прамаўчым.

— Сярэдняе спажыванне бялкоў, вітамінаў і мінералаў практычна такое ж у бедных, як у сярэдняга класа і значна вышэйшае за рэкамендаваныя нормы.

Таму беднасць адносная. Таму, калі вам у наступны раз будуць казаць, што ў Амерыцы ўсё яшчэ «неграў лінчуюць», а капіталізм не мае чалавечага аблічча, ацаніце гэтыя лічбы. Калі беларускі студэнт за лета ў Амерыцы можа зарабіць нават $10 тысяч, беднасць у пераважнай колькасці выпадкаў з'яўляецца выбарам самога чалавека ці вынікам яго адносінаў да працы, сям'і і сяброў.

*Чытайце: Facebook.com/Jaroslav.Romanchuk*

# У Мінску пакажуць забароненае ў Расіі «Каханне» Гаспара Наэ

Ад 6 да 13 лістапада ў рамках ММКФ «Лістапад» мінчукам пакажуць скандальную эратычную драму Гаспара Наэ «Каханне». Як растлумачылі ў дырэкцыі фестывалю, фільм будзе дэманстравацца ў рамках пазаконкурснай праграмы на начных сеансах і строга для публікі 18+.

Пасля прагляду прэм'еры фільма на Канскім кінафестывалі крытыкі прызнавалі некаторыя сцэны з «Кахання» куды больш адкрытымі, чым у «Німфаманцы» Ларса фон Трыера. У Мінску да сёння не давалі інфармацыі наконт пракату карціны — вяліся доўгія перамовы аб паказе.

Дэбаты вакол карціны разгарнуліся пасля 17 верасня: фільм Наэ павінен быў выйсці ў расійскі пракат, але Мінкульт адмовіў фільму ў пракатным пасведчанні, спаслаўшыся на празмерную колькасць эратычных сцэн. Пазней у Маскве стужка дэманстравалася ў рамках фестывальнага пракату.

**Сямён Цыбульскі**

# Дар'ю Домрачаву зрабілі цяжарнай



«Упэўнены ў сваёй крыніцы, раней яна не памылялася, але прынашу прабачэнні Дар'і за публікацыю і хачу пажадаць ёй здароўя. Я не маю рацыі».

Так карэспандэнту *Onliner.by* пракаментаваў навіну аб цяжарнасці Дар'і Домрачавай журналіст «Советского спорта» Дзмітрый Ягораў.

Менавіта ён апублікаваў у сваім твітары інфармацыю пра цяжарнасць беларускай біятланісткі.

Між тым афіцыйнага пацвярджэння гэтай інфармацыі няма, сама Дар'я ніякіх заяў не рабіла.

Трохразовая алімпійская чэмпіёнка заявіла летам аб пропуску цяперашняга сезона. Увесну Домрачава ўпершыню ў кар'еры выйграла Вялікі Крышталёвы глобус, але захварэла на манануклеоз.

Адзін са збораў беларуска правяла ў Раўбічах разам са шматразовым алімпійскім чэмпіёнам нарвежцам Оле-Эйнарам Б'ёрндаленам, з якім таксама нярэдка з'яўлялася разам на розных мерапрыемствах.

Шведскі біятланіст Б'ёрн Феры ў сваёй кнізе заявіў пра раман Домрачавай і Б'ёрндалена.

# Дачка Пуціна дала сваё першае інтэрв'ю

Інтэрв’ю з **Кацярынай Ціханавай** правялі журналісты расійскага «Інтэрфакса».

У ім няма ніводнага пытання пра тое, ці сапраўды яна дачка Пуціна. Акрамя таго, яно не ўтрымлівае адказу на пытанне, якім чынам менавіта яна ўзначаліла фонд са шматмільённым абаротам грошай.

У інтэрв’ю Ціханава заявіла, што прыйшла ў фонд «Інапрактыка», таму што вучылася ў МДУ і да гэтага часу займаецца там навуковай дзейнасцю ў галіне тэорыі кіравання.

«Калі дакладней, то мая праца ляжыць у галіне кагнітыўнай навукі і знаходзіцца на стыку як мінімум пяці дысцыплін: матэматычнага мадэлявання, механікі, псіхалогіі, фізіялогіі, і ў прынцыпе тычыцца біяхіміі», — сказала яна.

Як вядома, асабістае жыццё Уладзіміра Пуціна старанна хаваецца. Вядома, што ў яго ёсць дзве дачкі. У СМІ і палітычных колах кажуць, што Кацярына Ціханава — дачка Пуціна.

У фэйсбуку кіраўнік эканамічнага аддзела «Інтэрфакса» Юрый Пагарэлы ўскосна пацвердзіў, што Ціханава — дачка прэзідэнта Расіі. Каментуючы пост галоўрэда РБК Лізаветы Асяцінскай, ён растлумачыў: «Ліза, табе часта дачка Пуціна дае інтэрв’ю? Нам яна дала вось на такіх умовах — толькі пра МДУ. І без фатаграфіі. Нам акей», — напісаў ён.

Як сведчыў заснаваны Аляксеем Навальным «Фонд барацьбы з карупцыяй», Кацярына Ціханава ўзначальвае нікому невядомы фонд з найбуйнейшым гадавым бюджэтам у 281 млн рублёў.

**ЮБ**







Жустэн Трудо перад дабрачынным баксёрскім паядынкам з кансерватарам Патрыкам Бразо.

## Жустэн Трудо: канадцы выбралі самага сэксуальнага прэм’ера

Жустэн Трудо прывёў Ліберальную партыю Канады да абсалютнага поспеху. На мінулых выбарах яна была на трэцім месцы. Цяпер жа бліскуча перамагла і правых (Кансерватыўная партыя), і левых (Нацыянальна-дэмакратычная партыя).

Жустэну Трудо 43 гады. Ён сын знакамітага кіраўніка Канады П’ера Трудо. А яшчэ ён папулярны персанаж свецкага жыцця і проста «прыгажунчык».

Кансерватары спрабавалі крытыкаваць Трудо за ягоную ўвагу да ўласнага выгляду. «Валасы ўкладаць ён умее, а вось працаваць?» Але харызма Трудо спрацавала. 35-мільённую Канаду павядзе новы прэм’ер-міністр, якога адразу празвалі самым сэксуальным у свеце.

**Сямён Цыбульскі**



## Роберт Мугабэ атрымаў кітайскую альтэрнатыву Нобелеўскай прэміі міру

У ліку лаўрэатаў — Фідэль **Кастра** і Уладзімір **Пуцін**.

Прэзідэнт Зімбабве Роберт Мугабэ быў узнагароджаны кітайскай прэміяй міру імя Канфуцыя за яго натхнёнае нацыянальнае лідарства і прасоўванне панафрыканізму.

Мугабэ «пераадолеў разнастайныя цяжкасці і імкнецца да пабудовы палітычнага і эканамічнага парадку ў сваёй краіне, у той жа час рашуча падтрымлівае панафрыканізм і афрыканскую незалежнасць», — гаворыцца ў паведамленні камісіі.

Мугабэ атрымаў толькі 36 з 76 галасоў, але па выніках пасяджэння 13 членаў экспертнай рады камітэта ўсё ж атрымаў узнагароду. У лік іншых кандыдатаў уваходзілі Нурсултан Назарбаеў, заснавальнік «Майкрасофт» Біл Гейтс і прэзідэнт Паўднёвай Карэі Пак Кын Хе.

Роберт Мугабэ — самы стары кіраўнік дзяржавы на планеце (91 год). Прэзідэнт Зімбабве з 1987 года. Цягам свайго кіравання ператварыў адну з самых паспяховых краін Афрыкі ў царства жабрацтва, голаду і СНІДу. З 2015 года старшыня Афрыканскага саюза.

Прэмія была заснаваная ў 2010 годзе ў адказ на рашэнне Нобелеўскага камітэта прысудзіць Прэмію міру кітайскаму дысідэнту Лю Сяабо. Лаўрэатам прэміі Канфуцыя выплочваецца 100 000 юаняў (прыблізна 15 тысяч даляраў). У 2010 годзе яе атрымаў Уладзімір Пуцін, а ў 2014 — Фідэль Кастра.

**Іван Шыла**

## «Самая прыгожая біятланістка Расіі» цяпер будзе выступаць за зборную Беларусі



Расійскі сайт *sports.ru* перадае, што 22-гадовая біятланістка Хрысціна Ільчанка з наступнага сезона будзе выступаць за нацыянальную каманду Беларусі.

Дзяўчына родам з невялічкага гарадка Лабытнангі Ямала-Нянецкай аўтаномнай акругі (на хантыйскай мове назва паселішча значыць «сем лістоўніц»). Жыве ў Цюмені. У Расіі журналісты называюць Хрысціну Ільчанка самай прыгожай біятланісткай краіны.

Пачынала займацца класічнымі лыжамі, а пасля перайшла ў біятлон. Як біятланістка яна пакуль не паказала надзвычайных поспехаў. Летась толькі заваявала два залатыя медалі на чэмпіянаце свету па летнім біятлоне.

У расійскай зборнай вельмі вялікая канкурэнцыя. Не кожная спартсменка можа прабіцца ў аснову, таму часта нашы ўсходнія суседзі адпускаюць некаторых атлетак, у якіх не бачаць перспектывы. Так, напрыклад, было з жыхаркай Санкт-Пецярбурга Надзеяй Скардзіна. Тым не менш у Беларусі Скардзіна раскрылася і нават стала бронзавай медалісткай Алімпіяды ў Сочы.

**Зміцер Панкавец**

**Кіно**

## Чалавек ці вампір?

**Пачвары на канікулах — 2** (у арыгінале «Гатэль Трансільванія — 2»)
**Жанр:** мультфільм, камедыя, сямейны
**Рэжысёр:** Джэндзі Тартакоўскі
**У ролях (агучка):** Адам Сэндлер, Эндзі Сэмберг, Селена Гомес, Кевін Джэймс, Стыў Бушэмі, Дэвід Спейд, Кігэн-Майкл Кі, Эшар Блінкофф.
ЗША, 89 хв.
**Адзнака:** 7

Над мультфільмам працавалі 24 раскадроўшчыкі, 23 спецыялісты па візуальных эфектах, 17 мастакоў па афармленні слаёў, 105 аніматараў і 87 асвятляльнікаў. Усяго было намалявана 194 персанажы і 74 лакацыі.

Фінальная мадэль прычоскі Дэніса складалася з 265 самастойных валасінак. Калі камп'ютар дамаляваў астатнія, колькасць узрасла да 150 000 валасінак.




Гісторыя незвычайнага гатэля, якім запраўляе граф Дракула, працягваецца. У глушы, далёка ад людскіх вачэй, кіпіць жыццё пастаяльцаў і персаналу гатэля для пачвараў і іх сяброў. У Джонатана і Мэвіс — змяшанай пары чалавека і вампіра — нарадзіўся сын. Граф Дракула, вядома, шчаслівы, што стаў дзедам, але ён яшчэ не ўяўляе, якія цяжкасці чакаюць яго ў выхаванні дзіцяці. Кім стане маленькі Дэніс: чалавекам ці вампірам?

Падзеі фільма адбываюцца праз 7 гадоў пасля падзей першай часткі, якая выйшла на экраны ў 2012. Графу Дракулу цяпер 539 гадоў, яго дачцэ Мэвіс — 125, а Джонатану (чалавеку) — 28. Сюжэт сканцэнтраваны вакол маленькага Дэніса, з якога дзед марыць зрабіць сапраўднага вампіра.

Стужку паказваюць з прафесійнай расійскай агучкай, у працы над якой брала ўдзел спявачка Паліна Гагарына (Мэвіс), а таксама Валянцін Гафт (стары вампір Улад). «Галасы падабраныя дзівосна, яны робяць мультфільм яшчэ больш яркім», — падзялілася Паліна.

Мультфільм вызначаецца прадуманасцю і дэтальнасцю. Прататыпам аэрапорта стаў Сан-Хасэ ў Паўночнай Каліфорніі, найбліжэйшы аэрапорт да горада Санта-Круз, адкуль родам Джонатан. Ідэю для летняга лагера, які наведваў Дракула ў маленстве (месцазнаходжанне лагера заставалася ў таямніцы 1000 гадоў), падказаў мастакам рэальны горад Р’юкан у Нарвегіі, пабудаваны ў вузкай даліне, куды практычна не пранікае сонечнае святло. У 2013 годзе на горным хрыбце для асвятлення горада ўсталявалі тры люстэркі, кожнае з якіх плошчай 17 м².

Мультфільм атрымаўся вясёлы, з музычнымі ўстаўкамі і неблагім гумарам, але перанасычаны сучаснай поп-культурай. Ён падыходзіць для сямейнага прагляду і мае рэйтынг 6+.

**Настасся Уласава**

# Залатая цыбуліна

Цяпер і ў Слоніме. А нашто?

«Паважаная рэдакцыя «Нашай Нівы»! Звярніце, калі ласка, увагу на тое, што непасрэдна цяпер адбываецца незаконнае знішчэнне гістарычнага аблічча помніка архітэктуры XVII стагоддзя Траецкага сабора (былога касцёла бернардынцаў) у Слоніме!» — напісаў нам у Рэдакцыі чытач N.

А іншы чытач, Сяргей Бусько, прыслаў фота залатой цыбуліны.

«Добры вечар. Не так даўно чытаў ваш артыкул аб царкве вескі Валавель [помнік драўлянай архітэктуры, дзе змянілі купал на цыбуліну]. Учора заўважыў, які здзек запланаваны ў Слоніме. Побач з храмам падрыхтаваны новы купал - гістарычны помнік і ўся панарама магдэбургскага горада Агінскага будзе сапсавана», — перажывае Сяргей.

Па-першае, шчыра не разумею, нашто гэтыя залатыя цыбуліны ўвогуле. Няўжо яшчэ ёсць людзі, якія думаюць, што вера ў Богу памерам цыбулін выражаецца?

Хворым трэба грошы на аперацыі, дзецям трэба грошы на вучобу, нашы лясы патанаюць у смецці — грошы можна патраціць на збор. Карацей, столькі патрэб — а хтосьці мяняе цыбуліны простыя на цыбуліны залатыя. Ну, але...

Але ёсць другі аспект. Гэта помнікі БЕЛАРУСКАГА стылю. Нашы продкі ТАК іх будавалі. Адкуль гэтая прага перабудаваць іх у рускім стылі? Аналагічныя выпадкі былі з будынкам былога дамініканскага касцёла ў Клецку, царквой Барыса і Глеба ў Наваградку і шэрагам іншых храмаў.

Я папрасіў нашага карэспандэнта распытаць зацікаўленых асоб. Вось што высветлілася.

Так, гісторыя складаная. У XVI стагоддзі на месцы Траецкага сабора ў Слоніме стаяла драўляная праваслаўная царква. Потым пляц перадалі каталікам. У 1635—1645 гадах там пабудавалі касцёл (той самы, які мы бачым сёння). У 1867 расійскія ўлады канфіскуюць будынак і перадаюць праваслаўным. Калі Заходняя Беларусь апынаецца пад Польшчай, храм ізноў аддаюць каталікам. У вайну праваслаўныя забіраюць яго назад.

Што тычыцца цыбуліны, то яе вырашылі вярнуць яшчэ ў 2012 годзе. Спачатку з'явілася бляшаная, пафарбаваная ў цёмны колер. Вяртанне абгрунтоўвалі фотаздымкамі пачатку XX ст., часоў Расійскай імперыі. А сёння вырашылі замяніць старую цыбуліну на новую, «залатую».




Знайсці адказнага за рэканструкцыю царквы аказалася няпроста.

«Перш за ўсё трэба звяртацца ў мясцовыя органы ўлады, якія павінны весці кантроль і нагляд над такімі пытаннямі. І калі ідуць работы, і іх няма ў дакументах, якія мы ім выслалі, то яны ідуць незаконна», — паведамілі «Нашай Ніве» ва ўпраўленні па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры.

Тамара Ямеліна, начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва Слонімскага райвыканкама, заявіла, што дазвол на рэканструкцыю дае іх аддзел. Але ж, па яе словах, адказнасць за выгляд гістарычных помнікаў нясе толькі ўласнік будынка, то бок, БПЦ.

Святар Дзмітры Сёмуха, намеснік настаяцеля Свята-Троіцкага сабора, патлумачыў з'яўленне новай цыбуліны ізноў жа старымі фотаздымкамі.

«Залатых цыбулін там ніколі не было і быць не павінна. Нават формы такой не было тады. Гэта парушэнне гістарычнага вобліку будынка, — абураецца Антон Астаповіч, старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. — Праблема ў тым, што дзяржаўныя службы — Мінкульт, мясцовыя ўлады — узгадняюць заведамыя парушэнні заканадаўства».

Па словах Астаповіча, грамадству цяжка нешта зрабіць тут.

«Летась мы спрабавалі судзіцца з Міністэрствам культуры па пытанні незаконных узгадненняў. Але суды ўсіх інстанцый заявілі адно і тое ж, што прадстаўнікі грамадскасці не маюць права аспрэчваць рашэнні па ўзгадненні дакументацыі», —наракае Астаповіч.

Застаецца звяртацца да сумлення і нацыянальнага гонару святароў. Не рушце старыны беларускай, не выдумляйце цыбулін!

**Андрэй Дынько, Улад Швядовіч**

Меркаванні

## Эпахальны разварот

Піша **Уладзімір Някляеў**.

Вось якая размова з даўнім знаёмцам выйшла ў мяне гэтымі днямі.

Сустрэліся выпадкова. Ён з цяперашніх багатых, мае квоту ў будаўнічым, гандлёвым бізнесе. Зразумела, не праціўнік рэжыму, але й не заядлы лукашыст. Ліберальных, можна сказаць, поглядаў, зыходзячы з якіх і пачаў мне даводзіць, што ўсе мае апошнія дзеянні спрэс памылковыя. У тым ліку выхад з апазіцыі, з кампаніі «Гавары праўду», дзе трэба было заставацца і ўдзельнічаць у выбарах нават у тым выпадку, калі б там пагалоўна ўсе супрацоўнічалі са спецслужбамі. Чаму? Бо, па-першае, для большасці сёння гэта не мае ніякага значэння. Няма ўжо ў гэтым таго негатыву, які меўся раней, грамадства становіцца прагматычным, пазбаўляецца рамантычных, інтэлігенцкіх дурнотаў. Па-другое, адбыўся гістарычны перalom. Лукашэнка перастаў кланяцца на Усход, пачаў эпахальны разварот на Захад, да якога скіравалі яго людзі з прагматычным мысленнем у бізнесе, ва ўладзе — у тым ліку ў спецслужбах. Таму супрацоўнічаць з імі для нармальных людзей — нармальна, як гэта прынята ва ўсім свеце.

Змены кірунку ўжо не будзе. А значыць, выйграе той, хто паспрыяе ў гэтым працэсе, распачатым менавіта цяпер, у час, калі ўлада і грамадства аказаліся да яго гатовымі. Цягнік рушыў — і хто ў яго не ўскочыў, той прайграў. Памыліўся, хоць яшчэ не позна выправіць памылку, скочыць у апошнія вагоны...

Гэтаму майму знаёмцу дапамог некалі займець першыя грошы, даў магчымасць «раскруціцца» Генадзь Карпенка, калі быў мэрам Маладзечна. І я не стаў удавацца ў спрэчку, а спытаў як бы безадносна да таго, што ён мне даводзіў: «Як ты думаеш, Карпенка памёр сваёй смерцю?..» Ён сказаў, што не ведае. «Але ты дапускаеш, што не сваёй, што ў гэтым яму паспрыялі спецслужбы, людзі, якія разварочваюцца цяпер з усходу на захад?» — настойваў я на адказе, і ён паўтарыў, што не ведае, але дапускае, што такое магло быць. «І дапускаючы, што гэтыя людзі паспрыялі сыходу аднаго з нашых сяброў, ты дапускаеш, што можна паспрыяць ім «эпахальна развярнуцца»? Што для нармальных людзей гэта нармальна?..»

На тым мы развіталіся.

*Чытайце: Facebook.com/Uladzimir.niakliaeu*

Пошта

## Фальш і фікцыя замест выбараў

Я хадзіў на выбары, каб падтрымаць жанчыну-кандыдата, і верылася ў нейкую барацьбу за другі тур. А калі выставілі ёй усяго 4 працэнты даверу, то хацелася пайсці ў каморку і пашукаць там вяроўку. Вось так яе панізілі, хоць перад выбарамі ёй давяралі 25—30 людзей з сотні апытаных.

Ужо праз 30 хвілін, як зачыніліся ўчасткі, яны былі гатовыя аб'явіць пераможцу. І гэта прытым, што ўчасткаў больш за 6 тысяч, трэба было ўсё дакладна падлічыць і перадаць звесткі ў раён, у вобласць, у Мінск. А тут на табе — усё даўно вядома.

Поўная фікцыя і фальш, падлік галасоў у вузкім коле і ніякай праверкі потым.

**Аляксей Буцько, Гродна**

## А сена гніе

Днямі я пабываў каля Параф'янава. Гэта аддаленае ад вялікіх дарог поле, плошчай каля сотні гектараў, да якога можна дабрацца, толькі пераехаўшы ўброд ручай. Па полі, якое было засеяна канюшынай і скошана, ляжалі раскіданыя цюкі сена. Дзяржаўная гаспадарка скасіла канюшыну, высушыла, сабрала ў цюкі — і пакінула гніць.

Вось яны, вынікі аграрнай палітыкі.

**Косцік Крулеўскі, Докшыцы (Віцебская вобласць)**

Пытанне — адказ

## Цэнтр беларускіх даследаванняў створаны ў Варшаве

Раскажыце, калі ласка, што за Цэнтр беларускіх даследаванняў (ЦБД) стварылі пры Варшаўскім універсітэце?

**Віталь Б., аспірант**

«Стварэнне ЦБД абяцае стаць важнай з'явай ў жыцці беларускай гістарычнай навукі, — расказала «Нашай Ніве» доктарка гістарычных навук Святлана Куль-Сяльверстава. — У Варшаўскім універсітэце існуе Аддзяленне Усходняй Еўропы. Беларусь не была там асобна прадстаўленая, хаця ёсць цікаўнасць да нашага народа, яго культуры і гісторыі. Ініцыятыва па стварэнні цэнтра ішла з абодвух бакоў — і ад кіраўніцтва Аддзялення, і ад вядомых беларускіх гісторыкаў Вячаслава Шведа і Аляксандра Краўцэвіча. Паколькі ў апошнія гады многія выкладчыкі з вялікім вопытам і навуковым патэнцыялам былі звольнены з беларускіх ВНУ, такая пляцоўка дала б ім магчымасць працягваць сваю навуковую дзейнасць.

Пакуль што Цэнтр беларускіх даследаванняў атрымаў штат з 11 выкладчыкаў, у ліку якіх чатыры дактары навук — Аляксандр Смалянчук, Аляксандр Краўцэвіч, Вячаслаў Шведі я, а таксама кандыдаты навук. Што тычыцца мяне асабіста, я буду сумяшчаць працу ў Цэнтры з выкладаннем у Беластоцкай палітэхніцы, дзе дагэтуль працавала. Каардынатарам цэнтра аднагалосна абралі доктар навук Краўцэвіч. Плануецца ўжо ў наступным годзе выдаць першы нумар «Гадавіка ЦБД», рэдактарам якога абраны дацэнт Генадзь Семянчук».

Што ж, плёну ў працы гісторыкам.

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**

**Факс: (017) 284-73-29**

Прыватныя абвесткі

**Рэпетытар.** Прапаную дапамогу ў засваенні школьнай праграмы па фізіцы і матэматыцы.

Дапамагу асвоіць камп'ютар з нуля, таксама навучаю праграмаванню. Маю 3-гадовы досвед выкладання ў гімназіі. (029) 896-65-39.

**Змяшчайце рэкламу і абвесткі ў газеце і на сайце NN.BY!**

Гнуткія зніжкі для прыватных асоб і прадпрыемстваў. Вялізны эфект ад рэкламы на сайце! 5 мільёнаў праглядаў старонак за месяц! Магчымасць селектыўнага паказу банераў.

**Тэлефон (017) 284-73-29, nn@nn.by**

Абразкі

## «Добры жонцы мужык будзець»

Былі з братам у Сітцах (Докшыцкі раён). Зайшлі купіць паесці ў магазін, што ў Дамейкавым будынку 1853 года месціцца. Там абед меў быць, але магазіншчыца гандлявала, дзве жанчыны да яе на сяло прыйшлі.

Узялі з братам батон і каўбасу. На двары холадна, дык пытаюся ў магазіншчыцы:

-- Можна мы тут пасядзім?

-- Можна.

Паелі. Накрышылі на падлогу. Бяру мяцёлку і савок, каб замясці. Магазіншчыца кажа: «Не трэба!»

Я кажу: «Не, я насвінячыў, дык павінен прыбраць».

У магазіне сядзіць бабулька, яна праз дарогу жыве і прыйшла да магазіншчыцы на сяло. Паглядзела на мяне і кажа:

— Добры жонцы мужык будзець...

Мала якія словы могуць быць настолькі прыемнымі, як такая ацэнка ад старой кабеты.

**Кастусь Шыталь, Глыбокае**

# Сын зарабляе ў Лондане, бацька сядзіць у КДБ

У Брэсце распачалася гучная справа кампаніі «Консул».

19 верасня Павел Гільман, малады беларускі прадпрымальнік, які жыве ў Лондане, выступаў у Мінску на бізнэс-форуме і раздаваў інтэрв'ю. 28-гадовы хлопец кіруе групай кампаній на брытанскім рынку нерухомасці, актыўна інвестуе ў біятэхналогіі і медыя. Але ж роўна праз месяц прозвішча Гільман загучала ўжо ў абсалютна іншым кантэксце. 19 кастрычніка бацьку і дзядзьку Паўла ў Брэсце затрымаў КДБ.

Міхаіл і Леанід Гільманы з'яўляюцца акцыянерамі і кіраўнікамі брэсцкага ЗАТ «Консул». Кожны з братоў мае па 33% акцый кампаніі. Міхаіл — дырэктар па вытворчасці, Леанід — па эканоміцы. Яны сыны даволі вядомага беларускага вучонага Залмана Гільмана. Яму 86 гадоў, ён доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, спецыяліст-заатэхнік.


Залман Гільман з жонкай Любоўю.


Павел Гільман.



Будынак ЗАТ «Консул».

Залман Гільман мае аўтарскія пасведчанні на 14 вынаходак і патэнтаў, у тым ліку за вывядзенне двух парод свіней — «беларускай буйной белай» і «беларускай чорнапярэстай». Лаўрэат дзяржаўнай прэміі СССР, кавалер многіх ордэнаў, заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Беларусі.

У галіне АПК працавалі і Міхаіл і Леанід Гільманы. Прадпрыемства — найбуйнейшая ў Беларусі кампанія, якая забяспечвае поўны цыкл догляду за жывёлай і птушкай. «Консул» вырабляе кармы і вітамінна-мінеральныя дабаўкі, распрацоўвае праграмы кармлення і аздараўлення жывёл і птушкі, пастаўляе вакцыны і ветпрэпараты, ветэрынарнае абсталяванне, а таксама абсталяванне для жывёлагадоўчых ферм і комплексаў, камбікормавых заводаў, мясакамбінатаў.

Паслугамі кампаніі, паводле дадзеных, размешчаных на яе афіцыйным сайце, карыстаецца больш за 500 прадпрыемстваў АПК Беларусі. «Консул» таксама мае свае прадстаўніцтвы ва Украіне, Расіі, Англіі, Польшчы і Латвіі.

Усяго з кіраўніцтва прадпрыемства затрымалі 13 чалавек, і сёння дзейнасць кампаніі практычна цалкам паралізаваная, як паведаміў газеце «Вячэрні Брэст» адзін з супрацоўнікаў «Консула». Па яго словах, аперацыя камітэтчыкаў стала поўнай нечаканасцю. На думку супрацоўніка, за ўсім гэтым крыюцца інтрыгі канкурэнтаў, бо нібыта ніякіх перадумоў для такога развіцця падзей (буйных праверак, праблем з бухгалтарскімі або фінансавымі справамі) у фірме не назіралася. Такое ж меркаванне выказаў і Залман Гільман.

«Мы так шмат зрабілі для Беларусі! Дзясяткі гадоў працавалі з самымі перадавымі гаспадаркамі. Таму, спадзяюся, гэтае пытанне неўзабаве вырашыцца, усё ўстаканіцца, — заявіў ён у каментары «Нашай Ніве». — Я асабіста лічу, што тут два варыянты: ці гэта выхадкі канкурэнтаў, ці дзяржава вырашыла папоўніць казну, таму іх затрымалі, а потым выпусцяць, каб далей працавалі».

Аднак у КДБ свой погляд на тое, што адбывалася ў «Консуле». Паведамляецца, што, выкарыстоўваючы больш за 40 падкантрольных фірмаў, арганізатары выводзілі за мяжу валюту, ухіляліся ад выплаты падаткаў і рэалізоўвалі прадукцыю канчатковаму спажыўцу з завышэннем цаны да трох разоў. На тэрыторыі Беларусі спецслужбамі было праведзена 48 ператрусаў. Выяўлена і канфіскавана 36 пячатак замежных кампаній, праз рахункі якіх ажыццяўлялася кіраванне ценявымі плынямі. У ходзеператрусаў канфіскавана і накладзены арышт у агульнай колькасці больш чым на два мільёны даляраў. Акрамя таго, арышты накладзеныя на 106 аб'ектаў нерухомасці, больш за 100 легкавых і грузавых аўтамабіляў.

На сустрэчы з Лукашэнкам старшыня КДБ Валеры Вакульчык заявіў, што ўдзельнікі «шэрых» схем выводзяць з абароту сродкі, не выплачваюць падаткаў і атрымліваюць велізарны прыбытак.

Якія абвінавачванні будуць выстаўленыя кіраўніцтву кампаніі і каму канкрэтна, пакуль што невядома. У КДБ сітуацыю з «Консулам» не каментуюць. Але па словах Залмана Гільмана, вядзецца следства і затрыманых кіраўнікоў прадпрыемства яшчэ ніхто не выпусціў. Залман Гільман сцвярджае, што следчыя і дагэтуль не могуць прад'явіць абвінавачванне.

Улад Швядовіч

### Сцісла

**Выпілі і забілі**

Дзве жанчыны да смерці збілі сваю сабутэльніцу ў Мінскім раёне. Падазраваныя затрыманыя. Усе — жыхары Мінска.

**Небяспечныя гульні**

У Мінску на дзіцячай пляцоўцы бетонная арка ўпала на двух школьніц. Дзяўчаты ў бальніцы.

**Рамонтнік-кузаўнік паехаў пакатацца на пакінутым яму «БМВ»**

У Гродне рамонтнік-кузаўнік паехаў пакатацца на пакінутым яму «БМВ», урэзаўся ў тралейбус і збег з месца ДТЗ. Яго асобу высветлілі, вядзецца вышук.

**Узяў і сеў**

За хабар затрыманы намеснік начальніка аддзела падатковай інспекцыі па Мінскім раёне. Сума хабару складала 1300 даляраў.

УШ

# «Лэнд Ровер» каштаваў два жыцці

У Магілёўскай вобласці хлопцы забілі суседа, каб завалодаць яго машынай. Потым яны пазбавіліся ад сваёй сяброўкі, якая была сведкай.

10 кастрычніка 54-гадовы ўладальнік дома ў вёсцы Стоўпішча, што ў Кіраўскім раёне, знік, яго тэлефон быў выключаны. Знаёмая мужчыны занепакоілася і звярнулася ў міліцыю.

Следча-аператыўная група знайшла ў доме мужчыны сляды крыві. Па хаце былі раскіданыя рэчы. Машыны ў двары не было. Стала зразумела, што, хутчэй за ўсё, мужчыну хтосьці «дапамог» знікнуць. Да таго ж, па словах суседзяў, ён зусім нядаўна прадаў двухпакаёвую кватэру ў Бабруйску, адпаведна, меў вялікую суму грошай.

Міліцыя занялася вышукам. Неўзабаве былі вызначаныя і затрыманыя падазраваныя. Гэта былі два родныя браты, 20 і 25 гадоў, якія жылі нездалёк ад дома мужчыны. Разам з імі затрымалі і іх 20-гадовага сябра. Усе падазраваныя раней былі судзімыя за крадзяжы. Адзін з іх быў вызвалены з месца пазбаўлення волі ў гэтым годзе па амністыі, іншы па рашэнні суда да моманту здзяйснення злачынства павінен быў адбываць тэрмін у папраўчай установе адкрытага тыпу, на «хіміі», але туды не даехаў. Вядома, што адзін з падазраваных быў таксікаманам, нюхаў клей, а магчыма, гэтым жа «дурэлі» і астатнія. Ні адзін з іх не працаваў

«Ад іх была атрымана інфармацыя, якая адкрыта ўказвала на дачыненне да здзяйснення наўмыснага забойства з мэтай завалодання аўтамашынай «Ленд Ровер Дыскаверы», — паведамляе магілёўская міліцыя.

Машыну знайшлі на стаянцы ў Асіповічах. Салон аўто быў у крыві.

У Бабруйскім раёне ў лесе недалёка ад трасы адшукалі і магілу зніклага. Прычым у ёй было пахавана два чалавекі. Як высветлілася, загінула і аднавяскоўка падазраваных, 22-гадовая дзяўчына. Ёсць падставы меркаваць, што яе маглі забіць як сведку — мусіць, яна прысутнічала ў доме пры расправе над яго ўладальнікам. На абодвух целах ёсць шматлікія раны, імаверна, сечаныя. Але дакладны характар пашкоджанняў і прычыны смерці яшчэ трэба будзе вызначыць экспертам.

Цяпер следчыя шукаюць, куды зніклі 20 тысяч даляраў забітага, якія засталіся пасля продажу кватэры. Частку грошай ён выдаткаваў, астатнія зніклі. Прычым падазраваныя адмаўляюць свой удзел у крадзяжы грошай. Кажуць, іх мэтай быў аўтамабіль.

У дачыненні да трох маладых людзей была распачатая крымінальная справа. Калі віна будзе доказаная, хлопцам пагражае пазбаўленне волі на тэрмін ад 8 да 25 гадоў, пажыццёвае зняволенне або смяротнае пакаранне.

УШ

# Муж «заказаў» жонку былому сваяку

Выканаўца забойства працаваў у рытуальнай службе і на наступны дзень забіраў з морга цела забітай ім жанчыны.

Следчы камітэт завяршыў расследаванне забойства 34-гадовай жыхаркі Рэчыцы. 16 красавіка цела жанчыны з яўнымі прыкметамі гвалтоўнай смерці знайшла яе маці. Забітая ляжала ва ўласным двары.

Па падазрэнні ў забойстве быў ужо на наступны дзень затрыманы муж загінулай, а яшчэ праз дзень знайшлі другога падазраванага — жыхара Рэчыцкага раёна.

Матывам здзяйснення забойства стаў карыслівы інтарэс: муж яшчэ год таму вырашыў забіць жонку, каб завалодаць нажытай у шлюбе маёмасцю. У пачатку года ён прапанаваў за забойства 5 тысяч даляраў раней судзімаму брату сваёй першай жонкі. Раніцай таго дня муж забітай жанчыны з'ехаў з дома на аўтамабілі з асабістым кіроўцам. Ён забяспечваў сабе алібі, сустракаючыся з многімі людзьмі.

Яго паплечнік прыйшоў да гаспадыні дома ў 8.30 пад выглядам работніка газавай службы. Ён папрасіў яе паказаць газавы лічыльнік. Калі жанчына ўвайшла ў дом, забойца напаў на яе і нанёс мноства раненняў нажом, ад чаго яна і сканала на месцы. Затым забойца інсцэніраваў абрабаванне ў доме і знік з месца здарэння. Праз некалькі гадзінаў ён атрымаў ад заказчыка частку «ганарару».

Адметна, што выканаўца забойства працаваў у рытуальнай службе і на наступны дзень забіраў з морга цела забітай ім жанчыны.

Лёс падазраваных вырашыць суд. Ім можа пагражаць смяротнае пакаранне.

УШ

# Дом для сябе ў беларускім стылі: праекты

Фестываль-конкурс *Belarus Design Award* — штогадовы міжнародны праект, у рамках якога праводзіцца творчы конкурс на найлепшы праект інтэр'ера.

У праекце бяруць удзел архітэктары, дызайнеры, дэкаратары, студэнты і выкладчыкі, дызайн-студыі і майстэрні. Арганізатар мерапрыемства — кампанія *Alvasgroup*.

Сёлетняя тэма — дом для сябе ў беларускім стылі. Разнастайнасць прыёмаў радуе: хто выкарыстаў арнамент у выглядзе дэкору, хто пайшоў больш складаным шляхам пераймання беларускіх традыцый. Больш за 100 праектаў ілюструюць уяўленні беларускіх творцаў аб сучасным беларускім інтэр’еры.

Шляхам анлайн-галасавання вызначаецца пераможца ў намінацыі «Прыз глядацкіх сімпатый» і фармуецца шорт-ліст прэтэндэнтаў на перамогу ў галоўных намінацыях. Анлайн-галасаванне пройдзе з 16 кастрычніка па 2 лістапада 2015. Падтрымаць аўтараў можа кожны з вас.

Больш інфармацыі на *design-award.by*.

**Аляксандра Баярына**


























# «Я не беларус сама, але мне гідка чуць»

Працяг са старонкі 2.

Хоць Сыс прасіў яго «не рабіць гэтага», бо «напіша кепска». «Але я яго не слухаў, пісаў пакрысе, і герой пачаў вырастаць, пачаў крышку ад Анатоля адасабляцца... Ён неяк спытаўся ў Нінэль Шчаснай: «Андруша раман выдаў? І як ён там мяне вывеў? Тая адказала, што цудоўна. Ну хай», — сказаў Анатоль», — падзяліўся пісьменнік.

Пасля друку зборніка «Агмень» Федарэнка прысвяціў Сысу верш, дзе былі такія радкі: «...Кніга твая — выспа шчырасці... Зварухнуць твань балота стаячага дадзена толькі паэту божай міласцю».

**Алесь Наварыч** узгадваў, як пры першай сустрэчы доўга і пранікнёна глядзеў на яго Сыс і потым сказаў: «Наш!» Потым патлумачыў: «Я глядзеў на твой антрапалагічны тып: наш ты ці не наш».

«Прыгожы чалавек, і ведаў ён сабе цану, і гэта адпавядала вобразу, да якога ён імкнуўся, — увасабленне беларускага тыпу. Калі памятаеце, хадзіў ён у белай кашулі, проста шалёна любіў бел-чырвона-белы сцяг, гэта для яго была такая святыня, нешта неймавернае, ён прыходзіў да мяне і пытаўся: дзе ў цябе сцяг вісіць?» — казаў Наварыч.

Па яго ўспамінах, Сыс неяк марыў, гледзячы на мапу Еўропы, што за ўсходнімі межамі Беларусі будзе адразу Ціхі акіян.

«Наша паліцэйска-марыянетачная дзяржава не адпавядае таму ідэалу, які быў у нас у 80-я, калі было Адраджэнне, рух наперад, а потым усё цяжэй і цяжэй, ды так, што ў Сыса вырваліся радкі: «У гэтай краіне не маю я волі», — зазначыў пісьменнік.

На гэтых словах з залы раптам раздаўся крык: «Прасціця, вы тут не агітацыю ведзёце протів Беларусі? Вы жывёте в нашей стране! Вы мазгі нам не затуманьвайце», — папрасіла жанчына з залы.

Хутка яна, абураная, выскачыла. Дарэчы, з мясцовых было вельмі мала людзей. Некалькі чалавек, хоць на краме і вісела абвестка аб свяце паэзіі, прычым на «зразумелай» мове: «... состоітся празднік поэзіі... організованный Союзом белорусскіх пісьменніков».

Абураная выступленнем Наварыча пенсіянерка на ганку СДК патлумачыла свой дэмарш: «Я не беларус сама, но мне противно слушать, когда человек высказывает чужіе слова. Я Анатоля вообще віделa только одін раз. Но дело не в этом. Меня кольнуло, что он что-то сказал, і мне не понравілось, вот что-то он сказал. Эта было похоже на агітацыю, вы понімаете меня? А здесь люді всякіе сидят, і все слышат, і выйдут отсюда с какімі-то другімі мненіямі. Надо думать, что говоріть, особенно теперь. Теперь лішнего говоріть не надо! С его слов палучілось так, что Сыс не любіл Россію. Я не знаю, любіл он ілі не любіл, но зачем это говоріть на публіку? Еслі вы пріехалі сюда, не надо нічего плохого говоріть о человеке, а тут ноткі нехорошіе проскаківалі. Я его ні одного стіхотворенія не чітала. Я сама стіхі пішу! Но еслі выйті і прочітать стіхотворение — надо прочітать его четко, ясно, конкретно, і чтобы выразітельно было, і с хорошімі словамі. А тут что? Одін вышел — трі строчкі прочітал!» — патлумачыла, як трэба пісаць вершы, пенсіянерка.









Да яе далучыўся мужчына. Ён запаліў цыгарэту і задуменна прамовіў, што ці не варта было б сюды «органы» выклікаць. «Стоіт мне только позвоніть в органы — і всё! Іх повяжут здесь! Я вот — среднестатістіческій человек! Но я не магу панять — что ані тут гаварат?!» — абураўся вясковец.

Яму спадабаўся толькі Віталь Рыжкоў. «Едзінственный, кто чотка прачытал сціхатварэнне — проста расказал судзьбу людзей», — дадаў пенсіянер.

Сыс ніколі не цураўся землякоў, «горада-героя» Гарошкава. Ён сваю малую радзіму, прыдняпроўскі худы пясочак, узнёс да Неба, склаўшы велічныя сімфоніі са слоў гэтым занядбаным гаротным празаічным мясцінам, дзе ён «крэпка рыбу лавіў на Дняпры». Ён выцягваў з гэтай зямлі чарапкі мілаградскай культуры, а ў багне трасянкі здолеў адкапаць дыяменты роднай мовы, адмыць іх ад чужынскага бруду, — каб сваіцлі нашчадкам у вершах і песнях.

Чаму ж тады на свята паэзіі прыйшло з мясцовых толькі некалькі чалавек? Не бачылі аб'явы, не мелі часу ў гэтыя хмарна-восеньскія апошнія дні, калі і ўсе працы на гародзе завершаны, і ўсе гарбузы пад паветку складзены, бульба ў капцы засыпаная, яблыкі саломай зацярушаны ў скрынках? Чаму землякі ўзгадваюць толькі нейкія дурныя гісторыі з удзелам паэта, які, безумоўна, не жыў па «маральным кодэксе будаўніка сацыялізму», а сам пісаў свае правілы, дзе першым прыказаннем выпаліў у сэрцы любоў да Радзімы з «бел-чырвона-белага радна».

Мне казалі: «Можа, гэта не мясцовыя? Цяпер шмат хто па Дняпры скупляе занядбаныя хаты, хто яны, што яны...»

Тады чаму «немясцовыя» дазваляюць сабе такія выказванні? Калі «немясцовыя» зрабіліся тут гаспадарамі, што пагражалі сёння на паэтаў «органы вызвать»?

А калі гэта мясцовыя? «Забыўся народ мой наймення дзядоў»? І «свету не бачыць далей азяроду»? Што застаецца — «вось вобласка, сяду і ў свет палячу»?

**Юлія Шымкевіч, Гарошкаў**

## Водгукі на nn.by

**3-пад Гомля**
Сумна гэта.

**Зззэх**
З блытанага, недарэчнага, урыўкавага, патэтычнага і ўра-патрыятычнага выступу Наварыча вынікала, што Сыс быў не паэтам, памяць якога варта і неабходна ўшаноўваць, а вершы перачытваць, а проста не зусім адэкватным чалавекам. Аўтарка артыкула ўслед за ім выказвае непавагу да людзей, якія ўсё ж наведалі імпрэзу. Пра што можна марыць, калі ўсё будуецца на непавазе і адвечным папроку простых людзей?
А добра тое, што ўпершыню за 10 гадоў пра Сыса прыгадвалі ў дзяржаўным будынку, а не на вуліцы.

**Валеры Мазынскі**
Бедная аўтарка артыкула! Што ж ты, дзяўчынка, хацела ад гэтых тутэйшых людцаў? Няма ім калі за работай ды ...літвом. І потым... страх! Бачыш, як яны лёгка пра яго ўзгадваюць! Пазваць каго трэба — і ўпякуць у ...Сібір!

**Андрусь з Менска**
Ды справа ў тэлебачанні. Дайце ў нармальныя рукі БТ на паўгода з поўным карт-бланшам.

**Мікалай**
На такія сустрэчы з вяскоўцамі трэба браць добра падрыхтаваных людзей, якія ўмеюць выступаць перад праблемнай аўдыторыяй, а не перад вузкай сталічнай тусоўкай аднадумцаў. Прытым трэба даваць слова толькі тым, хто можа звязна і аргументавана выказаць свае думкі, гучна і зразумела прачытаць вершы. А хто не здольны на гэтае, хай застаецца гледачом, звычайным удзельнікам масавага мерапрыемства.

**так-так**
Бяда нашая ў тым, што разбураная іерархія аўтарытэтаў, надзяліла людзей неразвітых пыхай, зрабілі іх у выніку лёгкай здабычай лісліўых папулістаў, несумленных дэмагогаў і хціваых падманшчыкаў. За што мы цяпер і церпім. Мы, беларускі народ, усе разам.

**Відавочца**
Чытачы, не засмучайцеся! Напісанае ў артыкуле толькі часткова адпавядае рэчаіснасці. У гэтым крывым люстэрку адбіўся толькі негатыў. А добрага і станоўчага насамрэч было болей. Шкада журналістку, што ўсё бачыцца ёй у чорным святле.

**гаспадар літоўскі**
У Гарошкаве прывыклі да расейскіх мыльных серыялаў. Глядзяць РТР,НТВ. А беларушчына для іх — экзотыка, не кажучы пра Сыса.

**Здзіўлены**
Я б наконт рэплік ад малаадукаванай часткі насельніцтва не парыўся. Кожнаму сваё.

**няма пракорокаў у сваёй айчыне**
Паважаю працу журналістаў . Але сей рэпартаж — гэта няведанне вясковага менталітэту, «гарадская» фанабэрыя. Проста галава жанчыны затуманеная саўковай прапагандай. Тое ўжо, што свята беларускай паэзіі праводзілася ў клубе, — добра. Што паболела гасцей — добра. Што на вясковых могілках было прыбрана — добра. Што сцэна ў клубе была адпаведна афармлена — добра.

**Дзед з правінцыі**
Я думаю, лепш правесці літаратурную сустрэчу так, каб пасля яе землякі заганарыліся, а не пазадваравалісcя. І не толькі цёмныя, забітыя гома савецікус тут вінаватыя. Далёкія паэты аказаліся ад народу, сумна.

**Андрэй**
А я ўсё ж схільны вінаваціць у сітуацыі спадара Наварыча. Ен казаў так, нібыта хацеў правакацыі. Гэткага «жалезам па шклe» ў літаратурным фармаце... Можа, і было тое ў апошнія гады жыцця Анатоля, калі ён заліваў сваё расчараванне ў жыцці моцнымі напоямі. Але ці ж гэта рысы да партрэта Сыса?
Сэнс рэпартажа мусіў палягаць не ў выпадку з Наварычам і мясцоваю кабетаю, але найперш у тых насамрэч кранальных словах пра Сыса, якія гучалі з вуснаў людзей, хто сапраўды сябраваў з паэтам альбо трапіў у ягоныя сябры праз ягоную паэзію.

# Як прымалі «Пагоню»

**І чаму Мінск не стаў Менскам. Пра XII сесію Вярхоўнага Савета БССР піша гісторык Аляксандр Кур'яновіч.**

Нечарговая шостая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР XII склікання пачала працу 17 верасня 1991 г. Сярод шматлікіх важных пытанняў, якія трэба было ўключыць у парадак дня, былі і такія, што яшчэ месяцам раней здаваліся немагчымымі: аб назве Беларускай ССР, а таксама аб Дзяржаўным сцягу і Дзяржаўным гербе рэспублікі. Намеснік Старшыні ВС Васіль Шаладонаў заклікаў калег нарэшце вызначыцца, «под какой символикой будет жить наша республика».

### Мінск ці Менск?

Шэраг дэпутатаў, у тым ліку і апазіцыя БНФ, прапанавалі ўключыць у парадак дня сесіі і пытанне аб вяртанні сталіцы рэспублікі назвы «Менск». Як вядома, такая назва была зацверджана ў Канстытуцыі БССР 1937 г. Але 29 ліпеня 1939 г. сесія Вярхоўнага Савета першага склікання змяніла назву сталічнага горада: «Менск» афіцыйна стаў «Мінскам».

5 верасня 1991 г. было прынята рашэнне Мінгарсавета №167, паводле якога Вярхоўнаму Савету прапаноўвалася разгледзець пытанне аб вяртанні Мінску гістарычнай назвы.

За ўключэнне пытанняў аб назве краіны, яе гербе і сцягу ў парадак дня сесіі аддалі свае галасы 180 дэпутатаў пры кворуме 174 чалавекі. Супраць выказаліся 20 парламентарыяў, у тым ліку і будучы беларускі кіраўнік Аляксандр Лукашэнка.

А вось наконт назвы сталіцы мелі месца вострыя дыскусіі. «У 1939 годзе рашэнне Прэзідыума было пастаўлена на сесію Вярхоўнага Савета без ніякай аргументацыі, — казаў лідар апазіцыі БНФ Зянон Пазняк. — Было сказана: «Прапаноўваецца перайменаваць горад Менск у горад Мінск. Хто за? У поўным маўчанні ўсе паднялі рукі і перайменавалі горад. На той жа сесіі быў зацверджаны Цанава. Зараз мы не можам быць незалежнай дзяржавай і не аднавіць свой гонар нацыянальны, які кінулі пад ногі і растапталі тады, калі расстрэльвалі. ...З'явілася ў бульварным друку шмат меркаванняў, што гэта будзе каштаваць мільёны. Шаноўныя дэпутаты! Гэта нічога не будзе каштаваць, як не каштавала, калі пераймяноўвалі гарады ў Брэжнеў [Набярэжныя Чалны — Аўт.], Андропаў [Рыбінск — Аўт.] і гэтак далей. З цягам амартызацыі мяняюцца шыльды і паступова мяняецца назва, гэта ў часе расцягнута, так заўсёды робіцца».

Палымяная прамова лідара БНФ не дапамагла. За ўнясенне ў парадак дня пытання аб адмене пастановы сесіі ад 29 ліпеня 1939 г. не хапіла кворуму, хаця колькасць дэпутатаў — 129, — якія падтрымалі такую ініцыятыву, была даволі вялікая.

**Аляксандр Кур'яновіч**

кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Звольнены з Акадэміі кіравання. Працуе грузчыкам у Мінску.



Па пытанні аб новай — Рэспубліка Беларусь — назве краіны цяжкасцяў не ўзнікла. Гэтую назву падтрымалі 233 парламентарыі з 244, што галасавалі. Ні адзін парламентарый не прагаласаваў супраць. Дэпутат Аляксандр Лукашэнка ўстрымаўся.

### Гілевіч і Таразевіч

Трэба было вырашыць пытанне з сімволікай. Галоўнымі лабістамі новай сімволікі выступілі парламенцкая апазіцыя БНФ, а таксама пастаянная камісія па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны на чале з паэтам Нілам Гілевічам. Прыхільнікам новай сімволікі ўдалося заручыцца падтрымкай былога Старшыні Прэзідыума ВС БССР XI склікання, народнага дэпутата СССР Георгія Таразевіча, які ў сваёй прамове выказаўся за новую сімволіку.

Аб безумоўным аўтарытэце Таразевіча ў Вярхоўным Савеце XII склікання сведчыць тое, што 18 верасня 1991 г. 228 парламентарыяў падтрымалі ягоную кандыдатуру ў Савет Рэспублік Вярхоўнага Савета СССР.

Шанцы на зацвярджэнне «Пагоні» і бел-чырвона-белага сцяга яшчэ больш узраслі, калі 18 верасня 1991 г. старшынёй ВС быў абраны Станіслаў Шушкевіч. Новы кіраўнік парламента яшчэ раней адкрыта заяўляў, што на 90% прыняў праграму БНФ.

Прыхільнікі новай сімволікі прыклалі беспрэцэдэнтныя намаганні дзеля яе зацвярджэння парламентам. У фае была арганізавана спецыяльная выстава, прысвечаная «Пагоні» і бел-чырвона-беламу сцягу. Кожны дэпутат атрымаў растыражаваныя копіі артыкулаў Вінцука Вячоркі і Уладзіміра Кошалева ў падтрымку новай сімволікі.

Вялікую ролю адыграла Аддзяленне грамадскіх навук і Інстытут гісторыі АН БССР. Так, напярэдадні Навуковая рада Інстытута гісторыі ўхваліла новую сімволіку.

Шмат што залежала і ад таго, як выступяць перад дэпутатамі прыхільнікі «Пагоні» і бел-чырвона-белага сцяга.

Уражвала прамова Ніла Гілевіча. Паэт адзначыў, што да гістарычных сімвалаў за гады савецкай улады заўсёды меў месца «вульгарны падыход». Сімволіка БССР, сцвярджаў Ніл Гілевіч, не адпавядае нацыянальным асаблівасцям рэспублікі, яна зроблена па адным стандарце, як сімволіка іншых саюзных рэспублік.

Ніл Гілевіч заклікаў не пужацца выявы мяча на гербе, бо на гербе многіх дзяржаў намалявана зброя, дзікія звяры і птушкі (леў, арол), а не абавязкова «авечка і голуб».

### Лябедзька: разумею ветэранаў, але міжнародны прэстыж важнейшы

Прыхільнікі новай сімволікі імкнуліся сыграць на чалавечых пачуццях дэпутатаў, абудзіць у іх гонар, патрыятызм, выкарыстоўваючы міжнародны аспект.

Так, дэпутат ад апазіцыі Віталь Малашка казаў, што ў замежнай прэсе Беларусь характарызуецца як выключна штучная бальшавіцкая з'ява, «тварэнне Леніна». І пакінуць старую сімволіку — значыць пацвердзіць штучны характар нацыянальна-дзяржаўнага фармавання Беларусі.

Дэпутат Анатоль Лябедзька прызнаўся, што не асудзіць тых ветэранаў, якія прагаласуюць супраць новай сімволікі, бо «ўсё жыццё іх прайшло пад гэтымі знакамі». Аднак, даказваў Анатоль Лябедзька, нашмат важнейшыя міжнародныя інтарэсы рэспублікі, якая «не павінна заставацца запаведнікам».

Дэпутат, лётчык-касманаўт СССР Уладзімір Кавалёнак зачытаў парламентарыям тэлеграму ад сям'і Якуба Коласа. Сваякі народнага паэта адназначна выказаліся за зацвярджэнне «Пагоні» і бел-чырвона-белага сцяга.

Праціўнікаў новай сімволікі ўмоўна можна было падзяліць на тры групоўкі. «Радыкальную» ачольваў дэпутат-ветэран Валянцін Сарокін, які даказваў, што на гэтых сімвалах, якія выкарыстоўвалі нямецка-фашысцкія захопнікі, «кровь сотен тысяч людей», таму іх прыняцце будзе «подлостью и мерзостью».

Сарокін выступаў за зменены герб БССР з выявай зубра альбо бусла.

### Пракаповіч прапаноўваў рэферэндум, а Лукашэнка — пачакаць

Другая групоўка лічыла, што пытанне аб замене сімволікі трэба вырашаць толькі з дапамогай рэферэндуму. Дэпутат Пятро Пракаповіч прапаноўваў вынесці сімволіку на ўсенароднае галасаванне, папярэдне даручыўшы вывучыць гэтую праблему навукоўцам. Прыхільнікі такога падыходу разлічвалі, што на рэферэндуме народ скажа рашучае «не» «буржуазнай» сімволіцы.

Нарэшце, прадстаўнікі трэцяй групоўкі лічылі, што канчатковую кропку ў спрэчцы аб сімволіцы павінна паставіць новая Канстытуцыя, г.зн. пытанне аб «Пагоні» і бел-чырвона-белым сцягу адсоўвалася на год-два. Агульнае крэда прыхільнікаў такога падыходу выказаў Аляксандр Лукашэнка. Дэпутат заклікаў не вырашаць гэтае пытанне «наскокам», бо «яшчэ ёсць час».

### Правал першага галасавання

Пры наяўнасці такой колькасці меркаванняў узніклі праблемы пры галасаванні. Так, законапраект аб Дзяржаўным сцягу і ўнясенні адпаведных змяненняў і дапаўненняў у Дэкларацыю і Канстытуцыю падтрымаў 201 парламентарый пры неабходным кворуме ў 231 чалавека. Акрамя таго, з 231 дэпутата 28 устрымаліся (у тым ліку і Аляксандр Лукашэнка), а двое — Мікалай Сасноўскі і Валянцін Сарокін — прагаласавалі супраць.

Трохі лепшай аказалася сітуацыя па гербе. З 229 дэпутатаў за «Пагоню» выказаліся 204 народныя выбраннікі. Супраць не было нікога, устрымаліся 25 чалавек.

У прыхільнікаў «Пагоні» і бел-чырвона-белага сцяга быў адзін бясспрэчны козыр. Напярэдадні галасавання па сімволіцы дэпутаты практычна аднагалосна падтрымалі перайменаванне БССР у Рэспубліку Беларусь. Узнік юрыдычны казус, які ў алегарычнай форме выказаў старшыня пастаяннай камісіі па заканадаўстве Дзмітрый Булахаў: «Мы нарадзілі дзіця і назвалі яго Рэспубліка Беларусь. Мы сказалі «А» і не можам не сказаць «Б». Герб у дадзенай сітуацыі супярэчыць таму, што мы прынялі».

Булахаў шчыра прызнаўся, што яму «сорамна за сваё веданне гісторыі». Ён прызнаў, што ў апошнія паўгода зразумеў: «Беларуссія пачыналася не з 17-га года», «а значна раней, і пачыналася менавіта з гэтых сімвалаў».

Так што ў абаронцаў «Пагоні» і бел-чырвона-белага сцяга былі яшчэ шанцы пераламаць сітуацыю.

### Казус Валянціны Падгрушы

Праўда, зацвярджэнне новай сімволікі ішло ўжо іншым спосабам, які прапанавала намесніца міністра юстыцыі Валянціна Падгруша. Сэнс камбінацыі быў у тым, каб прымаць «Пагоню» і бел-чырвона-белы сцяг не ў форме асобных законаў, а ў выглядзе ўнясення змяненняў і дапаўненняў у адпаведныя артыкулы Канстытуцыі БССР 1978 г. без апісанняў новых герба і сцяга. А ўжо пасля зацвярджэння такіх змяненняў і дапаўненняў прымаць адпаведныя законы і па гербе, і па сцягу.

**У сітуацыі хаосу Станіславу Шушкевічу ўдалося немагчымае**

Станіслаў Шушкевіч паставіў на галасаванне новы законапраект. Для неабходнага кворуму не хапіла толькі дзесяці галасоў: за гэты законапраект прагаласаваў 221 дэпутат.

Сітуацыя ў Авальнай зале стала яшчэ больш напружанай. Адны дэпутаты прапаноўвалі адкласці галасаванне, перанесці яго на больш позні тэрмін, іншыя настойвалі на паіменным галасаванні. Дэпутат Сяргей Навумчык успамінаў, як члены апазіцыі БНФ літаральна прасілі дэпутатаў падтрымаць новую сімволіку.

### «Знайсці згоду»

У сітуацыі блытаніны і хаосу Станіславу Шушкевічу ўдалося, здавалася, немагчымае: дамагчыся ў парламентарыяў дазволу паўторна вынесці законапраект на галасаванне. Кіраўнік парламента матываваў гэта так: «Я прашу прабачэння, я па адукацыі фізік, трэба некалькі ітэрацый, некалькі збліжэнняў, каб знайсці згоду». Вынікі галасавання былі такія: з 263 зарэгістраваных дэпутатаў 231 дэпутат выказаўся за, 1 — супраць, устрымаліся 4 парламентарыі, 27 чалавек не галасавалі наогул.

У той жа дзень — 19 верасня 1991 г. — парламент зацвердзіў законы аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю, аб гербе «Пагоня» і аб бел-чырвона-белым сцягу.

Прыхільнікі «Пагоні» і бел-чырвона-белага сцяга не хавалі свайго задавальнення вынікамі галасавання. Дзмітрый Булахаў з пафасам заявіў, што лозунг «Жыве Беларусь!» павінен аб'яднаць усіх: і прыхільнікаў БНФ, і яго праціўнікаў.

Дэпутат Аляксандр Караўка прапанаваў устанавіць 19 верасня ў якасці нацыянальнага свята. Аднак Станіслаў Шушкевіч не стаў ставіць гэтае пытанне на галасаванне.

### Сцяг вывесілі ўначы

Праціўнікі новай сімволікі пастараліся сапсаваць трыумф пераможцаў. Бел-чырвона-белы сцяг над Домам урада быў вывешаны таемна ноччу.

Што да новага герба, то яго ўзнялі на Доме ўрада толькі напярэдадні Дня Незалежнасці 27 ліпеня 1994. Да гэтага вяліся вострыя дыскусіі, што рабіць са старым гербам. Выказваліся думкі аб тым, каб яго дэмантаваць, але гэта можна было зрабіць, калі рассекчы герб БССР па кавалках. Было вырашана накрыць стары герб новым, больш вялікім па памерах.

Зацвярджэнне герба «Пагоні» і бел-чырвона-белага сцяга сустрэла неадназначную рэакцыю грамадскасці. Праціўнікі новай сімволікі літаральна завалілі Вярхоўны Савет абуранымі лістамі, скаргамі і пагрозамі.

Абразлівыя лісты ў дачыненні да новай сімволікі і яе прыхільнікаў ішлі на адрас Вярхоўнага Савета аж да замены «Пагоні» і бел-чырвона-белага сцяга. Яны сведчылі аб нізкай палітычнай культуры грамадзян, зняважлівасці да Вярхоўнага Савета, які ўсё ж такі з'яўляўся найвышэйшым органам дзяржаўнай улады.

Такім чынам, зацвярджэнне герба «Пагоні» і бел-чырвона-белага сцяга ў якасці дзяржаўных сімвалаў стала знамянальнай падзеяй у палітычнай гісторыі сучаснай Беларусі. Яно сведчыла аб тым, што працэс нацыянальнага адраджэння хоць і павольна, але ідзе ў беларускім соцыуме.

Аднак зацверджаныя сімвалы мелі малы «запас трываласці». Яны былі прынятыя з вялікімі намаганнямі, у абстаноўцы супрацьстаяння. Захады з дапаўненнямі ў Канстытуцыю пазней далі падставу праціўнікам новай сімволікі абвінаваціць Вярхоўны Савет у парушэнні працэдуры.

Акрамя таго, у грамадскай свядомасці новая сімволіка асацыявалася з БНФ, крытычны патэнцыял да якога сярод выбаршчыкаў быў высокі. Гэтага было дастаткова, каб у выпадку змены ўладнай кан'юнктуры «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг сталі разменнай манетай у палітычнай барацьбе.

Апавяданне. Піша **Алесь Кіркевіч**.

# Жнівень дагарае

Горадня. Спёка. Дагарае жнівень. Слава прыехаў дадому на пару дзён. За спінай — Цэнтральная Азія і адпачынак, наперадзе — Варшава, будзённасць, праца. «Пайшлі на квас», «хадзем» — паролі для мабільных размоваў у нас простыя, не праблытаеш. А што трапіцца?

— Здаро-о-ова! — лезе абдымацца забарадзелы ды неяк коса пастрыжаны сябра.

— Прывет, прысядзем дзе?

— Давай.

Добра, што ў родным горадзе ўжо ёсць дзе прысесці: пара кнайпаў усё ж такі выстаўляе драўляныя сталы на двор. Але да іх яшчэ трэба спусціцца па Савецкай, былой Дамініканскай, а значыць, прайсці поруч з усмешлівымі дзяўчатамі з анкетамі ад нейкага арыфлэйму, крыху менш усмешлівымі, хай і бяззубымі, вулічнымі музыкамі, ну і ўжо зусім не ўсмешлівымі зборшчыкамі подпісаў — выбарчы год усё ж такі.

Во, і да нас ужо скіраваўся нейкі дзіўны зборшчык — цёмна-сінія галіфэ, лампасы, кірзачы...

— Мужік, дай закуріть!

— Мужікі в Россіі.

— Ах..ел? —шчыра здзівіўся вусаты. — Знаешь, кто перед тобой?

— Хто?

— Казачій полковнік!

— И где твой полк?.. — беларускамоўны Слава неяк нечакана перайшоў на мову апанента. — Война ідёт, что ты тут делаешь?

— Я... занимаюсь мобілізацией і разведкой, — менш упэўнена дадаў вусаты.

— Что-о? Это как... летчік подводного флота? — Слава паказаў белыя зубы.

— Я... шча в..бу, реально.— Рукі вусатага пацягнуліся да партупеі, намацваючы ці тое нагайку, ці тое наган — ні таго, ні другога там не аказалася.

— Олежа, успокойся, это же провокаторы. — Да вусатага падышоў яшчэ адзін тып у казачай форме ды чорных акулярах.

Мінакі ўжо спыняліся побач, але на бяспечнай адлегласці за пару метраў. Жанчына з торбамі, відаць, па дарозе з крамы, моўчкі глядзела, а вось хлопец з заплечнікам у кашулі ў клетку пачаў здымаць на тэлефон.

Вусаты, краем вока агледзеўшы аўдыторыю і пераканаўшыся, што паміж ім і Славікам стаіць яшчэ сябар у чорных акулярах, пагрозліва выгукнуў:

— Я реально в...бу!

— Тішш, Олежа, это бэнээфовцы, — ледзве чутна прашыпеў сакраментальную формулу акулярык. — Ім за это деньгі платят.

— Хадзем, — я пацягнуў Славіка за рукаво.

«Казацкі» пікет разам з кінатэатрам «Гродна» аддаляліся, вусаты яшчэ пару разоў сціснуў кулакі, нешта тлумачачы таварышу, жанчына з торбамі пайшла далей па справах, а хлопец з заплечнікам незадаволена схаваў тэлефон.

— Так уя..ць яму хацелася, — выдыхнуў Слава.

— ...Нас Ян чакае, спазняемся.

Насамрэч, сярод столікаў на адкрытай тэрасе каля дома Ромэра на той жа Савецкай, дзе 150 год таму праходзілі пасяджэнні паўстанцкай арганізацыі, куды заходжваў Каліноўскі, нас ніхто не чакаў. Яна яшчэ не было.

— Дзе ты там? — спытаў я ў слухаўку.

**Алесь Кіркевіч**

нарадзіўся ў 1989 у Гродне ў сям'і гісторыкаў. У 2011 быў палітвязнем.




— Эмм, яшчэ на Карбышава, амаль на Сацыялістычнай... на скрыжаванні.

Пунктуальнасць дакладна не Янаў конёк. Але годзе, даўно ж не бачыліся. Дакладней, Слава з Янам даўно не бачыліся. Я часцей неяк.

— Бач, і пікет казацкі паглядзелі... — сябра трэба было падбадзёрыць.

Слава маўчаў, круцячы ў руках керамічную сальнічку з барнага стала. Калі надакучыць, я ўжо ведаю, возьмецца за сурвэткі. Вядома, які-ніякі, але выкід адрэналіну...

— А ты паліў на пікетах, як сам подпісы збіраў?

— Не-а, — не зводзячы вачэй з сальнічкі, неяк сумна кінуў Слава. — У 2006 мы нават піва не пілі, калі ўжо актыўная фаза выбараў была. І вуліцу па пешаходных пераходах пераходзілі, каб не дачапіліся...

— Вам что, молодые люді? — невядома адкуль з'явілася жанчынка год сарака ў белай кашульцы.

— Квас, два, калі ласка. І чыпсы... «Анега».

— Добра, — усміхнулася жанчынка і пайшла да суседняга століка.

Там, як назло, прысела некалькі сівых палякаў, якія адразу ж агаломшылі цётачку:

— А чЭму бялорусы не розмовяёў на свэй мове?

— Ну як не размаўляюць, размаўляем!

— Ешчэ жоднэго разу не споткалэм ту...

— Піво, тшы, — перарваў суседа дзядэк поруч.

— Есть «Лідское», «Балтіка»...

Слава абярнуўся да «польскага» століка, а потым зноў да мяне:

— Адчуваю, што спакойна гэты вечар не скончыцца... — нягалены твар зноў засмяяўся, вочы заззялі, — а яшчэ як «водочкі» возьмем!..

— ...Табе з падарожжа што запомнілася найбольш? — трэба было змяніць тэму. — Ці наадварот, што тут уразіла пасля Узбекістана? — я ведаў, што распавядаць пра свае падарожжы Слава можа доўга і цікава.

— Ведаеш, дзве рэчы. Першая, я як з аэрапорта ў Мінску ехаў яшчэ, дык афігеваў: колькі ў нас прыгожых дзяўчат! Ты не ўяўляеш! Я за ўвесь час там, за тры тыдні, хіба дзвюх прыгожых узбечак сустрэў. З адной сфоткаўся. Пакажу, хош?.. І гэта ж яны без чадры ходзяць!

— А другая?

— З другой не фоткаўся...

— Не, другая рэч, якая здзівіла.

— А... другая, гэта, што ў нас дэмакратыя.

— ..?

— У параўнанні з імі ў нас дэмакратыя, чувак, а Лукашэнка — самы дэмакратычны прэзідэнт! Там атмасфера такая... блокпасты праз вуліцу. Калі едзе хто важны, дык увесь горад перакрываюць, прычым так: дзе хто быў, там і завісае на паўдня. Вось ехаў ты на аўтобусе, а яго спынілі, і дзверы зачыненыя. Сядзіш там, парышся.

— Мда...

Прынеслі квас з чыпсамі. Квас свой, «Лідскі», хай і з пластыкавай бутэлькі, а вось чыпсы... Чаму «Анега»? Зразумела, што над такімі пытаннямі ў школе ані я, ані Слава не задумваліся, храбусцелі сабе — і ўсё. Але чаму чыпсы з беларускай бульбы названыя ў гонар возера ў Расеі?.. Таямніца.

— І яшчэ, ведаеш, зразумеў, адкуль узялася «шырокая руская душа», — адпіўшы, зноў пачаў Слава. — Узбекі робяць вяселлі на паўтысячы чалавек, сур'ёзна. Вось жыве сабе сям'я, бедная сям'я, а сын, напрыклад, паехаў у Маскву дворы месці, зарабіў грошай і жэніцца, зразумела. То яго ўсе грошы ідуць на гэтае вяселле — уся вёска ці мястэчка гуляе. А на наступны дзень маладыя і бацькі іхныя зноў ядуць адну лепёшку на дзень... Вось яна, таямніца «шчодрасці» і «бескарыслівасці», сячэш?

— Хм, — пасміхаюся і адпіваю крыху штучнага квасу.

— Альбо панты — тое ж самае. У чалавека там можа быць класная тачка, дарагая вельмі, але ёсць адзін момант: дарог у краіне нармальных вобмаль, бездарожжа вакол. Таму ён на ёй не ездзіць, стаіць у гаражы. Але выбраным гасцям паказвае: глядзі, маўляў, што маю!

Прыкладна ў гэты момант на скрыжаванні Савецкай і Тэльмана замаячыла хударлявая высокая постаць у галандскай куртцы колеру хакі з заплечнікам — Ян.

— О-о-о, ну давай хоць абдымемся, — Слава як быццам імгненна тэлепартаваўся з бездарожжаў Узбекістана назад у Горадню, — ну, сядай, распавядай.

— А што распавядаць...

— Ну як яно тут, ажаніўся?

— Не...

— Возьмеце меню, — жанчынка ў белай кашульцы зноў узнікла побач, — ілі сразу закажете?

— Квас, — прамовіў Ян, нібы дзякуючы цётачцы за ратунак перад нязручнымі пытаннямі.

— ...Мля, колькі дзяўчат прыгожых, — Слава ўжо ўзіраўся на плыню па-летняму апранутых людзей, якія штосекунды палівалі сваімі сандалямі ды сланцамі міжваенную брукоўку колішняй Дамініканскай.

Кажуць, што нацыя стае нацыяй, калі пераадольвае этнацэнтрызм і вырываецца вонкі. Еўропа стала Еўропай, калі вырвалася за межы Сяродземнамор'я і Балтыкі. Польшча сталася Польшчай, калі польскія археолагі пачалі капаць у Егіпце, а Бжазінскі намаляваў для сусвету «вялікую шахматную дошку». Каб адбыцца, нацыя мае асэнсаваць сваю місію, паглядзець на сябе і ўвесь свет збоку.

Мажліва, таму Беларусь ведаюць дзякуючы Скарыну, які рэалізаваў глабальны праект — прынёс друкаваную кнігу ва Усходнюю Еўропу. Дзякуючы Касцюшку — змагаўся за свабоду па абодва бакі акіяна. Дзякуючы Быкаву — напісаў геніяльныя экзістэнцыйныя творы, актуальныя ў любы час, такія сабе евангеллі памежных псіхалагічных станаў, у якіх пілоткі з зорачкамі былі ўсяго толькі рэквізітам.

А ці стаўся б Скарына без Прагі, Касцюшка без Амерыкі, Быкаў без адысеі па Еўропе? А што, калі б Скарына перапісаў за жыццё ад рукі некалькі Псалтыроў, Касцюшка адслужыў невядомым афіцэрам у арміі позняй Рэчы Паспалітай, а Быкаў пакінуў па сабе ўсяго толькі наіўна-шчымлівыя ўспаміны пра Бычкі ды іх насельнікаў?..

Слава нервова ставіўся да закідонаў накшталт «мы тут сядзім, пакутуем, змагаемся, а ты па Еўропах ездзіш». Па-першае, не па Еўропах, а па свеце, бо Слава — грамадзянін свету. Па-другое, а чаго седзіце? Як змагаецеся? Які з гэтага плён на штодзень? Што вы канкрэтна «вызмагалі» сёння такога, што дае вам права папікаць іншых у бяздзейнасці?.. Таму, па меры змяншэння колькасці фрэндаў на фэйсбуку, змяншалася і колькасць падколак ад колішніх сяброў па першым беларускім ліцэі ў Горадні ды «Маладым фронце», сённяшніх айцішнікаў, дробных бізнэсоўцаў ды бацькоў сямействаў.

— Ты, Яне, чым займаешся?

— Пацюу, у музеі цяпер у асноўным, на раскопках.

— Ясна.

Скаральнік пустыняў зноў прыціх. Ян пачаў распавядаць сумную гісторыю пра карані русафільства ў беларускім нацыянальным руху. Дыскусія, маўляў, у яго была нядаўна з нейкім гісторыкам. Пра Тарашкевіча, Ластоўскага, Луцкевіча... Дзясяткі імёнаў, якія чамусьці паспелі набіць аскоміну яшчэ ва ўніверсітэце.

Можа, варта ўвесці нейкую адказнасць для няўдахаў, якія прапагандуюць «айцоў-заснавальнікаў» так, што ад іх імёнаў пачынае нудзіць? Ці накласці мараторый на арганізацыі, якія сабе гэтыя імёны прыўласнілі, разам з магіламі ды мемарыяльнымі дошкамі, зрабіўшы так, што ад іх пахне мярцвячынай? Ці проста забараніць чытаць кніжкі па гісторыі пэўнай катэгорыі нацыянальна свядомых грамадзянаў з псіхічнымі адхіленнямі?..

— А я, ведаеш, калі прыязджаю, больш за ўсё з братам часу праводжу, — у момант «злоўшы» гістарычную дыскусію, зноў улез Слава. — А ведаеш чаму? Бо з паспяховымі людзьмі заўжды цікава, а тут яшчэ і брат. Фірма свая, шафы ды кухні збірае. А з тых, з майго пакалення, часам сумна кагосьці бачыць — калі час ідзе, а чалавек такі самы. Швэдар выцягнуты з дзіркамі ды размовы ўсе пра Лукашэнку.

Датычна ўлады ў Славы, як у колішняга актывіста процьмы кампаніяў, была свая канцэпцыя: самае дурное — гэта даць ворагу зняволіць сябе двойчы. Бо большасць «дэмакратычных актывістаў» спачатку на 15 сутак садзіць «крывавы рэжым», а ўжо на рэшту жыцця — «на пажыццёвае» — яны садзяць сябе самі, дазваляючы «рэжыму» апанаваць усе свае думкі, жаданні, фантазіі ды фобіі. Такая яна — знішчальная прырода зла.

Таму Слава шукае сэнсы жыцця ў Арызоне, Непале альбо на дне высыхаючага Аральскага мора, адкуль вярнуўся пару дзён таму, каб праз пару — паехаць у Варшаву, а не ў пыльных офісах «за сцяг і мову», дзе пануе маўчанне і скруха.

...Разлічыўшыся, выходзім з кнайпы. Палякаў за столікам ужо няма. Ян хутка развітваецца ды збягае на аўтобус — яму ў іншы бок.

Шпацыруем уздоўж вуліцы Дзяржынскага, акурат па той частцы, якая некалі была мастом над Швейцарскай далінай, пакуль за познім Саюзам нехта не прыдумаў змяніць ландшафт ва ўсім старым цэнтры — даліну засыпаць, рэчку пусціць у трубы, збудаваць плошчу і паставіць Леніна. То бок пад Леніным — пустка, на плошчы — таксама велічэзная пустка. Архітэктары пустак.

— Глядзі якая! — хітае галавой Слава, ужо падыходзячы да прыпынку.

— Ды ну, твар.

— А фігура?

— Што фігура?

— ...Табе колькі год?

— 25.

— Во, а мне 33. Калі табе 25 — цікавы твар. Калі 35 — ужо фігура. Калі 45 — цікава, каб працавала ўсё. Калі 60 — цікава, каб ужо... нічога не працавала. А калі 70 — табе цікава ...усё! Ты чытаеш газеты, ідзеш у апазіцыю, у касцёл, выходзіш увечары на лавачку пад пад'езд — усім цікавішся!

Усміхаюся. Такі ён, Слава. Чаму такіх, як ён, тут так мала? А ці былі б яны такімі, жывучы тут? Пра гэта неяк не хочацца думаць...

— Калі ўжо кінеш варшаўскі офіс ды на поўнач за крабамі?

— Праз год. Во, з рамонтам у кватэры разбяруся — і за крабамі.

— Возьмеш?

— Ясна!

Усміхаюся, бо чуў гэтыя ж словы гады чатыры таму. Слава таксама ўсміхаецца.

— Я вось дакладна ведаю, што галоўнае маё падарожжа — наперадзе. І здзейсню я яго сам.

Каб Быкаў пісаў цяпер, адно з яго апавяданняў магло б сканчацца такімі словамі. Чысты экзістэнцыялізм: холад, адзінота, шчырасць.

— Сядай, твая «васьмёрка», у «перадапошняе» пакуль валі.

Абдымаемся, праз месяц-паўтара мо пабачымся. Калі не тут, дык у Варшаве. Хутчэй за ўсё, не тут...

Вечар цёплы, на прыпынку поўна людзей: сланцы, цёмныя акуляры, міні-спаднічкі. Жнівень яшчэ дагарае.

— Сігареты не будет у Вас?

— Не палю.

— Гарно, — усміхаецца хлопец.

Дзе я цябе бачыў... Ну канечне! Гэта ж той пацан з заплечнікам, які здымаў Славікаў «срач» з казакамі на тэлефон. Толькі цяпер кідаецца ў вочы тонкая сіня-жоўтая стужка на лямцы праз плячо. Усміхаюся, «клятчасты» хлопец усміхаецца ў адказ. Турыст? Бежанец? Беларускі ўкраінец? Часы незразумелыя, шмат пытанняў.

Я азірнуўся, Славікава «васьмёрка» толькі цяпер кранулася са святлафора і пакацыла кудысьці ў ліпкае марыва апошніх цёплых дзён лета.

— Тобі котра маршрутка? — перапытаў украінец.

— Ды я мясцовы, мне тут побач...




СЯРГЕЙ ЗІНІН

**Былы прэзідэнт Кыргызстана, які цяпер жыве ў Беларусі, нагадаў пра сябе. Гэта першая ягоная прэс-канферэнцыя за пяць гадоў. Цяпер Бакіеў жыве ў Драздах пад аховай Службы бяспекі прэзідэнта Лукашэнкі. Бакіеў назваў Беларусь сваёй другой Радзімай: «Да Беларусі я моцна прыкіпеў». Кажучы пра свае планы, ён не выключыў вяртання ў Кыргызстан, калі там зменіцца ўлада, аднак будучыню сваіх дзяцей ён бачыць у нашай краіне.**



**Вядомы фатограф і блогер Антон Матолька прыйшоў на паказы ў рамках Belarus Fashion Week у майцы ў падтрымку кадэтаў з Ястрамбельскай вучэльні. На фота: Матолька з тэледзівай Ганнай Бонд.**



**Забаўны эпізод адбыўся 23 кастрычніка на паказе калекцыі брэнда Tikota Unique у рамках Belarus Fashion Week. Падчас паказу на подыум выйшаў малады чалавек і сеў на падлогу па-турэцку. Да яго тут жа падышоў ахоўнік і ветліва папрасіў пакінуць залу. Аднак аказалася, што малады чалавек зусім не парушальнік парадку, а мадэль, і яго паводзіны на подыуме — частка сцэнара.**



**Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці асабіста перадаў папу Францішку дар ад Аляксандра Лукашэнкі — абраз «Беззаганнае Сэрца Марыі». Гэты абраз выкананы ў старажытнай беларускай тэхніцы работы па дрэве — сожская скань.**




**Сярод навагодніх тавараў у мінскім ЦУМе прадаюцца шкляныя шары ручнога роспісу з традыцыйным беларускім арнаментам. Цана — ад 60 да 100 тысяч рублёў.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Лукашэнка пасадзіў Дрэва міру. Дрэва можа выйсці па амністыі ў наступным годзе.

* * *

Дзівосы ментальнасці — брэнд «Бульбашъ» паспяхова збірае падабайкі беларусаў за тое, што абвяшчае: «Считаешь, что правильно «Беларусь», а не «Белоруссия»? Мы тоже».

* * *

Малпачка ўзяла ў рукі палку для сэлфі і зразумела, што зможа далей зарабляць без фатографа Валеры.

* * *

Вельмі шмат сур'ёзных рэчаў гаворыцца жартам.

* * *

Ён і не разумеў, наколькі круты, да таго моманту, як пачаў пісаць рэзюмэ.

* * *

– Спаць хочацца.
– У наступным жыцці выспішся...
– Ты і ў мінулым жыцці так казаў.

* * *

Многія купляюць у краме зялёны чай і ёгурт, бо трэба сачыць за сваім здароўем, і пельмені з маянэзам, бо трэба ж нешта паесці.

* * *

Я сказаў свайму псіхіятру, што чую галасы. Ён сказаў мне, што ў мяне няма псіхіятра.

* * *

– Дачушка, ну чаму ты не хочаш за яго замуж?
– Мам, ну ён жа руды!
Бацька з канапы:
– Ды глупства гэта! Год жыцця з табой — і ён будзе сівым!

## «НН» сто гадоў з вамі

**У незвычайна важны мамент** нашага нацыянальнага жыцця пачынае нанова выходзіць «Наша Ніва». Цяпер мы маем магчымасць вярнуцца да старой формы нашага выдавецтва і будзем выпускаць «Нашу Ніву» як тыднёвік. На жаль, з прычыны цяжкога матэрыяльнага палажэння, пакуль што не вельмі вялікі.

**«НН». №1. 1920.**

**Зянон Пазняк:** Пры якой умове вярнуся ў Беларусь? Умова зразумелая. Пакуль будзе гэты кагэбоўскі рэжым з Лукашэнкам, вярнуцца будзе немагчыма. І я думаю, што людзі гэта разумеюць. Ва ўсякім разе, у Суботніках. Мае суботніцкія вельмі талкова гавораць. І Фэлька Балдоўскі, сусед, і Марыся Гражынская. Суботніцкія людзі ўсе за мяне.

**«НН». №40. 2005.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 27.10.2015.
Замова №3945.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15040